15 красавіка 2016 | № 15 (480)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Рэха нідэрландскага рэферэндуму стар. 9




4 РАСІЙСКІЯ ІНТАРЭСЫ ЗАСТАЛІСЯ

Расія не збіраецца адмаўляцца ад намеру прыхапіць некаторыя беларускія прадпрыемствы

5 У КАМЕРЫ НАВАТ ГРУЗІН РАЗМАЎЛЯЎ ПА-БЕЛАРУСКУ

Мы працягваем знаёміць вас з гісторыямі людзей — удзельнікаў «Перапісу беларускамоўнага насельніцтва»




6–7 БЕЛАРУСЬ ЗАЧЫШЧАЮЦЬ АД ПАТРЫЁТАЎ

Ці можна лічыць пераслед некаторых актывістаў пачаткам сапраўды маштабных і сур'ёзных рэпрэсій?



10 НЯЎМЕЛЫЯ ЗМАГАРЫ

Колькі было тых гаротнікаў, што прайшлі пакуты, прыніжэнне і знішчэнне ў савецкіх турмах? Мусіць, ніхто дакладна не ведае...

# Вясновая прамыўка мазгоў

## Беларусаў чакае некалькі прапагандысцкіх кампаній



Сяргей ПУЛЬША

У цяжкія часы звычайна найперш скарачаюцца рэкламныя бюджэты і скасоўваюцца розныя прома-акцыі. Але гэта не пра нашу ўладу.

Улады Беларусі маюць намер правесці некалькі буйных прапагандысцкіх мерапрыемстваў. Адно з іх ужо адбылося. На тыдні ў нашай краіне, па старой завядзёнцы, высадзіўся дэсант расійскіх журналістаў. Больш за 30 чалавек — расійскіх блогераў, рэпарцёраў цэнтральных і рэгіянальных тэлеканалаў, а таксама друкаваных выданняў — два дні ездзілі за дзяржаўны кошт па Гомельскай вобласці. Яны наведалі Гомельскі палацава-паркавы ансамбль, мемарыяльны комплекс на месцы канцлагера ў вёсцы Чырвоны Бераг Жлобінскага раёна, Музей народнай творчасці ў горадзе Ветка, некаторыя іншыя аб'екты сацыяльнай сферы. Былі запланаваныя экскурсіі ў рэспубліканскі навукова-вытворчы цэнтр РНПЦ радыяцыйнай медыцыны і экалогіі чалавека, на прамысловыя прадпрыемствы, у тым ліку ААТ «Спартак», ААТ «Мілкавіта» і ПУП «Гомельская ўніверсальная база».

Самае цікавае, што тэма паездкі — «30 гадоў аварыі на ЧАЭС. Рэабілітацыя пацярпелых рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь. Развіццё малых гарадоў Беларусі». Якім чынам палацава-паркавы ансамбль, музей народнай творчасці і ПУП «Гомельская ўніверсальная база» датычаць Чарнобыля — незразумела.

Раней не было назвы гэтай з'яве, але дзякуй расіянам: пасля іх канцэпцыі «рускага свету» мы знайшлі вызначэнне. Гэта — прапаганда «беларускага свету». Яны потым пішуць, як цудоўна Беларусь выжывае ва ўмовах крызісу, якая тут файная эканамічная мадэль, якія адкрытыя і ветлівыя людзі, дагледжаныя гарады і працуючыя прадпрыемствы... І нельга ім, рускім, страціць такую шчырую і ўдзячную сяброўку. А значыць — трэба даць ёй яшчэ крэдытаў і зніжку на газ. Прапаганда беларускай мадэлі і беларускага ладу жыцця, «сацыяльна арыентаванай дзяржавы» — што гэта, як не «беларускі свет»?

Лукашэнка не першы раз скарыстоўвае расійскіх журналістаў для прапаганды «беларускага свету». Але раней візіты прадстаўнікоў расійскіх СМІ праходзілі на фоне «газавых скандалаў», «малочных войнаў» і гэтак далей. Зараз у нашых адносінах з Расіяй усё ціха і лагодна. Што ж тут робяць расійскія журналісты?

Палітолаг Аляксандр Класкоўскі кажа, што запрашэнне расійскіх прадстаўнікоў СМІ — для Лукашэнкі больш рытуал, чым дамаганне нейкіх глабальных мэтаў. На ягоную думку, «не трэба хвярэць беларусацэнтрызмам». «Для расійскіх медыяў Беларусь — не першасная тэма, і інтарэс да яе абвастраецца падчас канфліктных сітуацый», — заўважае палітолаг. Яскравы прыклад — нядаўні ўдзел міністра замежных спраў Уладзіміра Макея ў пасяджэнні Савета міністраў краін СНД. «Не пра лёс СНД у яго пыталіся, а пра расійскую авіябазу ў Беларусі і пра Крым», — адзначае эксперт.

«Тэндэнцыя цяпер такая, што Беларусь і яе кіраўнік у расійскіх медыях малююцца ў негатыўных тонах — пастаянна гучаць нейкія папрокі і падазрэнні ў здрадзе. Кажуць, што Лукашэнка перабягае на Захад, гадуе тут нацыяналістаў. Таму расійскія медыі сёння не нацэлены на тое, каб піярыць сацыяльную мадэль Лукашэнкі», — лічыць Класкоўскі.




Пры гэтым ён зазначыў цікавы момант: калі раней у Беларусь запрашалі пераважна прэсу, то зараз у складзе дэлегацыі блогеры, якія працуюць на іншую аўдыторыю.

Але наперадзе ў нас яшчэ дзве прапагандысцкія падзеі. Першая — аднолькава танны і бяскрыўдны выступ Аляксандра Рыгоравіча з пасланнем беларускаму народу і парламенту, які павінен адбыцца напрыканцы красавіка. І другая, з нявызначанай датай, не такая ўжо і танная — Усебеларускі народны сход.

І ад гэтых акцый Класкоўскі таксама не чакае «ідэалагічных прарываў». «Аляксандр Лукашэнка — чалавек савецкага складу, былы ідэалагічны работнік, яму важна падтрымаць рытуал. Выступ са справаздачай у парламенце закладзены ў Канстытуцыі. А што да Усебеларускага сходу, то, мне здаецца, аўтарытарны лідар думае найперш пра сябе: імкнецца паказаць, што насуперак нягодам усё ў нас нармальна, праваднік пранейшаму моцны і ўпэўнены ў заўтрашнім дні. Але ў сённяшняй сітуацыі Усебеларускі народны сход будзе вельмі натужным мерапрыемствам. Яно заўжды было фальшывым, а тут «абраным» прадстаўнікам народа давядзецца ўхваляць павышэнне камуналкі, пенсійнага ўзросту. І гэта будзе вельмі няўдзячная задача», — зазначае палітолаг.

> **Эфектыўнасць прапаганды застаецца пад вялікім пытаннем**

Пры тым, эфектыўнасць прапаганды застаецца пад вялікім пытаннем, зазначае эксперт. «У адрозненне ад Расіі, у нас, як паказваюць сацыялагічныя апытанні, усё ж лядоўня перамагае тэлевізар. Як паказала сакавіцкае апытанне НІСЭПД, блізу паловы насельніцтва вінаваціць урад і прэзідэнта ў эканамічным крызісе», — кажа Класкоўскі.

А таму задача замбавання насельніцтва абвастраецца. На гэта ўлады не шкадуюць грошай, — ашчаджаюць на чым заўгодна, але не на ідэалагічных акцыях.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ОРША. Супраць вырубкі дрэваў



**Разгортванне будаўнічай пляцоўкі каля дома №10 па вуліцы Сямёнава стала поўнай нечаканасцю для мясцовых жыхароў.**

Іх паставілі перад фактам, што зялёная зона каля дома будзе знішчаная, а пад вокнамі пабудуюць двухпавярховы гандлёвы цэнтр. А між тым жыхары ў свой час уласнымі рукам садзілі дрэвы, каб пад вокнамі былі зеляніна і цень.

«Мы даведаліся пра ўсё, калі рабочыя пачалі агароджваць плотам будаўнічую пляцоўку, — распавядае мясцовая жыхарка. — Будаўнікі нам сказалі, што тэрыторыя выкуплена прыватным прадпрымальнікам, і што ён хоча збудаваць адміністрацыйна-гандлёвы цэнтр. Навошта тут гандлёвы цэнтр, калі побач вялікая крама «Алмі» і невялічкі кірмаш? Навошта вырубаць дрэвы? Мы накіраваліся ў райвыканкам. Але нам сказалі, што яшчэ ў 2013 годзе быў аўкцыён, і нейкі віцебскі прадпрымальнік набыў права тут будавацца. І што мы, маўляў, таксама маглі выкупіць гэты ўчастак, калі б хацелі. А што не ведалі — дык, маўляў, ніхто не вінаваты».

Жыхары дома №10 напісалі калектыўны ліст у райвыканкам, Віцебскі аблвыканкам, у дзяржкантроль і ў прэзідэнцкую адміністрацыю. З адміністрацыі ўжо прыйшоў адказ, што допіс накіравалі на разбіральніцтва да мясцовых уладаў.

Людзі вырашылі супольна наймаць адваката і судзіцца з тымі, хто дазволіў гэтае будаўніцтва.

**Паводле spring96.org**

### ГОМЕЛЬ. Пратакол за чужы матэрыял



**Маёр міліцыі Цэнтральнага РАУСа Гомеля Уладзіслаў Шукель склаў пратакол на журналістку Ларысу Шчыракову за незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ.**

Журналістку вінавацяць у тым, што яна, нібыта, вырабіла матэрыял, які тычыўся візіту прадстаўніка ААН па справах уцекачоў Бушардзі ў Гомельскую абласную арганізацыю таварыства Чырвонага крыжа.

Але Шчыракова сцвярджае, што яна не з'яўляецца аўтарам гэтага матэрыялу.

«Упершыню мяне будуць судзіць за матэрыял, які я наогул не рабіла, — абураецца журналістка — Я насамрэч прысутнічала на сустрэчы Бушардзі з украінскімі ўцекачамі, але мэта мая была пазнаёміцца з уцекачамі, дамовіцца на здымкі. Я зрабіла некалькі кадраў, як адбывалася размова пасла з уцекачамі, і запісала з ім інтэрв'ю. Потым я выпадкова выдаліла гэты матэрыял з флэш-карты. Такім чынам, я не тое, што яго не мантавала, не распаўсюджвала, я яго нават на кампутар не скапіравала. Раней у матэрыялах адміністрацыйнай справы супраць мяне былі паказанні людзей, у якіх я брала інтэрв'ю. У гэты раз прадстаўніца Чырвонага крыжа дакладна сказала, што я не брала ў яе інтэрв'ю (якое было ў сюжэце Белсату), але ж маёр Шукель усё роўна склаў пратакол. Гэта проста прававое бязмежжа і здзек. Спадзяюся, у судзе справа развaліцца».

Нагадаем, сёлета гэта ўжо шосты пратакол у дачыненні да журналісткі. Тры суды скончыліся штрафамі ў памеры каля 15 мільёнаў рублёў, дзве адміністрацыйныя справы былі спынены.

**«Гомельская Вясна»**

### ГРОДНА. «Матчын рух» адстойвае правы



**У Гродзенскім абласным судзе разглядалася скарга ініцыятыўнай групы па стварэнні грамадскай арганізацыі «Матчын рух 328».**

Суддзя Мечыслаў Міневіч, як і чакалася ініцыятарамі стварэння ініцыятыўнай групы, пакінуў без змянення рашэнне Міністэрства юстыцыі пра нерэгістрацыю, абапіраючыся на тры ключавыя пункты: жаданне займацца дабрачыннай дзейнасцю не адпавядае заяўленаму статуту; у назве арганізацыі ўтрымліваецца лічба 328, якая супадае з артыкулам крымінальнага кодэксу, што, на думку Мінюста, не адпавядае заканадаўству; у пакеце дакументаў утрымліваўся лагатып арганізацыі, які не мусіў быць да рэгістрацыі.

Актывісты заявілі цвёрды намер адстойваць свае правы да канца, і на наступным этапе будуць звяртацца ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь.

Нагадаем, устаноўчы сход абласнога сацыяльна-асветніцкага грамадскага аб'яднання «Матчын рух 328» амаль паўгода таму. Маці, чые дзеці асуджаныя паводле гэтага артыкула КК («Незаконны абарот наркатычных і псіхатропных рэчываў») аб'ядноўваюцца дзеля абароны правоў сваіх дзяцей, многія з якіх, паводле родных і блізкіх, асуджаныя незаконна. «Матчын рух 328» мае на мэце таксама ажыццяўленне дзейнасці, накіраванай на садзейнічанне прафілактыкі ўжывання і распаўсюду наркотыкаў, прапаганду здаровага ладу жыцця, а таксама аказанне неабходнай дапамогі асуджаным і іх сем'ям. Аднак рух дасюль не рэгіструюць.

**Паводле «Гарадзенскай праўды»**

# Перагледзець справу Бандарэнкі

Сяргей ПУЛЬША

**Праваабаронцу Андрэю Бандарэнку, які зараз знаходзіцца ў магілёўскай турме, 14 красавіка споўнілася 43 гады. Да дня народзінаў група беларускіх юрыстаў зрабіла яму падарунак у выглядзе экспертызы ягонай крымінальнай справы.**

Пад экспертызай, якая займае 17 старонак тэксту, падпісаліся Міхаіл Пастухоў, Аляксандр Дабравольскі, Ігар Рынкевіч, Алег Волчак і Юрый Ваўчок. Яны лічаць, што ў дзеяннях Андрэя Бандарэнкі, за якія ён быў асуджаны, адсутнічае склад хуліганства альбо грамадска небяспечных дзеянняў. Таксама не было даказана, што гэтыя дзеянні здзяйсняліся з выключным цынізмам (ч. 2 арт. 339 КК), а роўна і тое, што такія дзеянні былі здзейснены з ужываннем зброі ці іншых прадметаў, якія выкарыстоўваюцца ў якасці зброі (ч. 3 арт. 339 КК).

Напрыклад, што тычыцца «прадметаў, якія выкарыстоўваліся ў якасці зброі», то самі пацярпелыя адмаўлялі гэты эпізод у судзе. Тым не менш, менавіта гэтая частка дазволіла ўжыць да Бандарэнкі «цяжкі» прысуд.

«Выносячы прысуд Бандарэнку, суд кіраваўся не фактамі, а меркаваннямі, што наводзіць нас на думку пра фальсіфікацыю асноўных матэрыялаў справы. Таму мы кажам пра тое, што кампетэнтныя інстанцыі павінны перагледзець гэты прысуд і спыніць крымінальны пераслед у дачыненні да Бандарэнкі», — кажа Міхаіл Пастухоў.

Гэтая экспертыза будзе накіраваная ў Вярхоўны суд і Генеральнаму пракурору. «Мы яшчэ абмяркуем, у якой форме гэта будзе зроблена. У асобы, якая гэта будзе рабіць, павінны быць нейкія паўнамоцтвы на падачу скаргі: альбо гэта будзе бацька Андрэя, альбо яго адвакат, альбо сам Бандарэнка», — кажа Пастухоў.

Ці не запозна гэта зроблена, бо Бандарэнку засталося знаходзіцца за кратамі менш за год? Пастухоў лічыць, што гэта рабіць ніколі не позна. «На жаль, нашая судовая сістэма вельмі кансерватыўная, фармалізаваная. Але ў выпадку перагляду справы Андрэй можа разлічваць на рэабілітацыю», — зазначыў юрыст.

Адначасова гэтая экспертыза будзе накіраваная і ў міжнародныя арганізацыі, бо прысуд Бандарэнку ягоныя калегі лічаць помстай за дзейнасць праваабарончай арганізацыі «Платформа». А значыць, пераслед Бандарэнкі і яго крымінальную справу можна расцэньваць як палітычна матываваную.

# Новыя мытныя правілы

**З 14 красавіка набывае сілу Указ №40, які змяняе правілы правозу тавараў з-за мяжы для грамадзян Беларусі. Што цяпер можна, а што нельга, разглядаем на прыкладзе рэальных сітуацый.**

**Сітуацыя 1. Еду за мяжу ўпершыню пасля 14 красавіка**

У краіну можна прывезці новых рэчаў на агульную суму 1500 еўра і вагой не больш за 50 кілаграмаў. Усё, што больш, будзе абкладацца падаткам і зборам. Лічыць агульны кошт мытнікі будуць па касавых чэках, якія вы ім пакажаце. Калі чэкаў няма — правяраць кошт рэчаў мытнікі будуць самастойна.

Везці тавараў на 1500 еўра можна раз на тры каляндарныя месяцы. То бок, калі прывёз тавараў на 1500 еўра 15 красавіка, то яшчэ раз гэта без выплаты пошлінаў можна зрабіць ужо 1 ліпеня.

**Сітуацыя 2. Я ўжо быў за мяжой адзін раз пасля 14 красавіка, прывёз тэлевізар за 1500 еўра, а цяпер еду раней, чым праз тры каляндарныя месяцы і вязу толькі тэлефон за 299 еўра.**

Усё, што танней за 300 еўра, дадатковымі падаткамі і зборамі не абкладаецца. Вызначаць кошт вашых пакупак мытнікі будуць такім самым чынам, як і ў першым выпадку, — па чэках альбо ўласнымі сіламі. Нюанс — вашы пакупкі не павінны важыць больш, чым 20 кг. Калі вы нешта купляеце ў Літве і плануеце забраць Tax Free на мяжы, то папрасіце ў касіра копію чэка (арыгінал забяруць разам з паперамі Tax Free).

**Сітуацыя 3. Я ужо быў за мяжой адзін раз пасля 14 красавіка, прывёз тэлевізар за 1500 еўра, а цяпер еду раней, чым праз тры каляндарныя месяцы і вязу тэлефон за 350 еўра.**

Давядзецца заплаціць мытны збор за ўвесь кошт тэлефона, мытную пошліну і падатак на дададную вартасць. Для кожнай катэгорыі тавараў памеры гэтых плацяжоў свае. Але ў выніку могуць скласці нават палову кошту. Калі вы везлі тэлефон за 299 і новыя джынсы за 30, то плаціць давядзецца за нешта адно на выбар. Лепш абраць джынсы.

**Сітуацыя 4. Я ўжо быў за мяжой адзін раз пасля 14 красавіка, нічога не прывёз, а цяпер еду раней, чым праз тры каляндарныя месяцы і вязу тэлефон за 350 еўра.**

Тое самае, што ў сітуацыі нумар 3. Мытніку не хвалюе, везлі вы ў першы раз нешта альбо не. Вашы законныя 1500 еўра згараюць адразу пасля першага ўезду ў краіну.

**Сітуацыя 5. Я забыў, што маю тавараў на большую, чым дазволеная, суму, і еду праз зялёны калідор.**

Калі мытнікі вас праверацць і знойдуць тавары на агульную суму больш за 300 еўра, то давядзецца заплаціць штраф — ад мільёна да шасці. Прычым раптоўна перадумаць і папрасіцца на «чырвоны калідор» ужо не атрымаецца — давядзецца плаціць і штраф, і зборы ды падаткі.

**Сітуацыя 6. Вяртаюся ў краіну са сваім старым, але вельмі дарагім ноўтбукам (фотаапаратам, планшэтам, тэлефонам).**

Каб не было ніякіх праблем, мытнікі раяць прасіць і запаўняць дэкларацыю падчас выезду з Беларусі. Калі гэтага не было зроблена, мытнікі могуць паверыць, што гэта ваш асабісты ноўтбук, якім вы карыстаецеся ўжо дзесяць гадоў. Але калі на ім няма ні драпінкі, могуць і не паверыць.

**Сітуацыя 7. Трапіў на шалёныя зніжкі і накупляў дарагіх рэчаў па смешных коштах.**

Калі чэкі захаваліся, то ўсё нармальна. Калі не, мытнікі могуць пачаць правяраць сапраўдны кошт вашых пакупак, і не факт, што ён будзе адпавядаць чароўным 300 еўра. Карацей, захоўвайце чэкі.

**Сітуацыя 8. Не хачу плаціць нікому ніякіх пошлін, што рабіць?**

Вяртацца ў Беларусь на самалёце. І яшчэ важны нюанс: перамяшчэнні па паветры мытня ўвогуле ўлічваць не будзе. То бок можна адзін раз паехаць машынай, прывезці сабе нешта на 1500 еўра, а потым тры месяцы лётаць самалётамі і вазіць, што захочаце, на суму, не большую 10 тысяч еўра.

**Паводле «Еўрарадыё»**

# «Чарнобыльскі шлях 2016»

**Прадстаўнікі дэмакратычных сілаў падалі заяўку ў Мінскі гарвыканкам на правядзенне традыцыйнага «Чарнобыльскага шляху». Акцыя запланаваная на 26 красавіка.**

Аргкамітэт прапануе Мінгарвыканкаму традыцыйны маршрут: збор удзельнікаў на пляцоўцы каля будынку Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (з 18.00 да 19.00), шэсце па праспекце Незалежнасці — вуліцах Сурганава і Арлоўскай (да 20.00), мітынг і ўскладанне кветак ля памятнага знаку «Ахвярам Чарнобыля». Час заканчэння мерапрыемства: 21:00

Заяўнікамі акцыі ў гэтым годзе сталі актывісты Руху «За Свабоду», Партыі БНФ, Партыі АГП, Беларускай партыі «Зялёныя», БСДП (Грамада), аргкамітэту па стварэнні Партыі БХД, Руху салідарнасці «Разам».

**Паводле рух.by**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як забяспечыць пенсію?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Галоўнай падзеяй тыдня, безумоўна, застаецца тое, што Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ пра паступовае павышэнне пенсійнага ўзросту. І хаця размовы пра гэта хадзілі даўно, але выглядае ўсё «бліцкрыгам». Нарада ў кіраўніка дзяржавы з гэтай нагоды адбылася 10 сакавіка, а ўказ падпісаны 11 красавіка. За месяц усё вырашылі.**


Фота www.consultantpuls.ru

Шматлікія эканамісты рэзка раскрытыкавалі такое рашэнне. І не таму, што з народам, насуперак абяцанкам, ніхто не раіўся. А таму, што структура рынка працы ў нас такая. Раней прадпрыемствы, як маглі, пазбаўляліся пенсіянераў — нават тых, хто хацеў працаваць. За гэты кошт вызваляліся працоўныя месцы для больш актыўнай і прадукцыйнай у сэнсе працы моладзі. Зараз пенсіянераў проста так не выганіш.

А гэта значыць, што прадукцыйнасць працы зменшыцца. «Стары конь баразны не сапсуе», вырашылі ва ўладных колах. Але забыліся на працяг прыказкі: «Але і глыбока не ўзарэ».

Безумоўна, нагрузка на пенсійны фонд краіны паменшыцца. Але паменшыцца яна за кошт дадатковай нагрузкі на прадпрыемствы, якія і так дыхаюць на ладан. Бо на кожнага «працуючага пенсіянера» працадаўца будзе адлічваць грошы ў той жа самы фонд сацыяльнай абароны насельніцтва.

Як кампенсацыю, урад абяцае стварыць 50 тысяч новых працоўных месцаў у год. Выбачайце, гэтыя планы — смеху вартыя. Як адзначыў эканаміст Леанід Заіка, зараз, згодна з Белстатам, у краіне 4,5 мільёна «эканамічна актыўнага насельніцтва». Новыя 50 тысяч працоўных месцаў — гэта каля 1%. Па тых жа дадзеных Белстата, за 2015 год толькі адных будаўнікоў звольнена з працы 92 тысячы чалавек. А калі паглядзець на памесячную статыстыку, то за мінулы год кожны месяц звальнялася прыкладна на 10 тысяч чалавек больш, чым прымалася на працу. Выключэнне склалі толькі летнія месяцы і верасень, дзе гэтая розніца на карысць звальненняў была ад трох да пяці тысяч чалавек. Што, зразумела, тлумачыцца летнімі адпачынкамі, падчас якіх чалавека не звальняюць.

Такім чынам, за год звальняецца каля 100 тысяч чалавек, а новых працоўных месцаў урад абяцае напалову менш.

Пра сацыяльны складнік гэтага рашэння мы ўжо не кажам. Згодна з тым жа Белстатам, сярэдняя працягласць жыцця мужчын у сінявокай — 67,8 года. Прычым, гэтая лічба на 2014-ы. З 1995-га па 2006-ы — 62–63 гады, з 2007-га па 2011-ы — 64 гады. Гэта значыць, што большасць мужчын ледзьве дацягнуць да пенсіі. Плюс абвостраныя Чарнобылем захворванні, плюс «сацыяльныя хваробы», як алкагалізм і наркаманія...

Такім чынам, павелічэнне пенсійнага ўзросту, як гэта ні дзіўна гучыць, правакуе беспрацоўе і ставіць у складаныя ўмовы беларускія прадпрыемствы. Паступовасць жа росту пенсійнага ўзроўню — на шэсць месяцаў раз на паўгода — зніжае эфект ад такой «рэформы». Зразумела ж, «рэформа» будзе ў двукоссі, бо пра сапраўднае рэфармаванне пенсійнай сістэмы — хаця б увядзенне назапашвальнай пенсіі, не кажучы ўжо пра развіццё альтэрнатыўных пенсійных фондаў і пенсійнае страхаванне, — ніхто пакуль што не нічога не пачуў.

Але не пачуў — гэта не значыць, што дзяржава на гэты конт нічога не робіць. Робіць, і яшчэ як! З 14 красавіка набыў моц указ №40, які змяняе правілы правозу тавараў з-за мяжы для грамадзян Беларусі. Гэтая норма знакамітая пад лозунгам «22 еўра — пасылка, 300 — увоз».

**За год звальняецца**
**100 тыс.**
**чалавек, а ўрад абяцае стварыць працоўных месцаў напалову менш**

Нагадваем: раз на тры месяцы вы маеце права ўвесці тавараў для асабістага карыстання на 1 500 еўра. Не выкідвайце чэкі з крамаў — па іх мытнікі будуць спраўджваць кошт набытага! А калі не, то яны ацэняць набытае самі — здагадайцеся, на чыю карысць? Калі вы адзін раз правезлі на 1 500 еўра, то наступным разам не перавышайце ліміт у 300 еўра, пакуль тры месяцы не скончацца. А калі ў першы раз нічога не прывезлі? Мытню гэта не хвалюе. Калі выехалі, значыць нешта ўвезлі. Ваш ліміт у 1 500 еўра «згарэў».

Такім чынам, на думку ўладаў, грамадзяне будуць менш ездзіць на шопінг за мяжу, і, такім чынам, больш адкладаць грошай на сваю пенсію. Нармальнае рашэнне пенсійнага пытання?

Не зусім, таму што, па-першае, наш народ вельмі не любіць, калі ў яго нешта «згарае». Таму па максімуме будзе скарыстоўваць першы візіт у тры месяцы, што прывядзе да месячных «скачкоў» вывазу валюты. А па-другое, народ перастане ездзіць, а будзе лётаць. Таму што, як ні дзіўна, паветранае злучэнне мытня не ўлічвае. Можна адзін раз з'ездзіць, і набраць рэчаў на 1 500 еўра, а можна разок зляцаць, і набраць рэчаў коштам да 10 тысяч еўра. У аэрапорце вас пісаць дэкларацыю не прымусяць.

Таму чакаем лаўкостаў «Мінск — Вільня», «Гродна — Варшава» і «Гомель — Смаленск». Вы думаеце, гэта неверагодна? Якраз наадварот. Вы не паверыце, але ў «Белавіа» ёсць нават рэйс працягласцю ў 300 кіламетраў: «Мінск — Гомель» на самалётах Ту-154 і CRJ. Таму арганізаваць «шопінг-палёты», калі будзе жаданне авіякампаніі, — дробязная справа. А вось на такіх квітках зарабіць можна дастаткова.

Ну і яшчэ цікавая навіна. У мінулым нумары мы пісалі пра планы ўрада знізіць інфляцыю ў 2020 годзе да 5% гадавых. На гэты год інфляцыя запланаваная ў памеры 12%. Як паведамляе той жа Белстат, ужо ў сакавіку (то бок, за тры месяцы) інфляцыйны паказчык дасягнуў амаль палову гадавой сумы — 5,7%. А ў нас жа наперадзе яшчэ дэнамінацыя і грашовая рэформа.

Дый павелічэнне камуналкі ніхто не адмяняў. Прынамсі, Мінгарвыканкам сваім рашэннем павысіў фіксаваныя тарыфы на водазабеспячэнне і водаадвядзенне, якія забяспечваюць поўнае пакрыццё насельніцтвам эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне, — у сярэднім на 25%.

Пры такім раскладзе і пра 12% інфляцыі казаць цяжкавата.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Аляксандр Лапіцкі

**79-гадовы мінчанін, інвалід другой групы, прызнаны вінаватым па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса за абразу прэзідэнта, прыніжэнне гонару і годнасці генпракурора і суддзяў.**



Аляксандр Лапіцкі пісаў скаргі ў розныя інстанцыі. Следчыя палічылі, што ў гэтых скаргах і ўтрымліваюцца абразы.

Праваабаронца Алег Волчак лічыць прысуд вельмі спрэчным. Раней міліцыя сем разоў адмаўляла ва ўзбуджэнні крымінальнай справы за паклёп. Пракурор спасылаўся на вынікі судова-псіхіятрычнай экспертызы, згодна з якой інвалід прызнаны псіхічна хворым, аднак гэтыя вынікі пад сумневам, бо экспертыза была зроблена за два дні з парушэннем працэсуальных норм. Сведкі-суседзі не лічаць яго вар'ятам, кампутар Лапіцкага і мадэм выключылі з ліку рэчавых доказаў: не ўдалося даказаць, што электронныя лісты на адрас Мінгарсуда, у пракуратуру, у адміністрацыю прэзідэнта сыходзілі з гэтага кампутара.

Суд Фрунзенскага раёна, тым не менш, прызнаў Лапіцкага хворым і адправіў на прымусовае лячэнне ў псіхіятрычную лякарню «Навінкі». Тэрмін лячэння вызначыць доктар.

## Андрэй Кабякоў

**Прэм'ер Беларусі настолькі верыць у беларускую прамысловасць, што ўпэўнены: прадукцыя будзе запатрабаваная вядучымі нямецкімі вытворцамі аўтамабіляў.**



Пасля наведвання прадпрыемства Беларускага металургічнага завода ў Жлобіне, Андрэй Кабякоў заявіў, што завершаная мадэрнізацыя прадпрыемства дасць магчымасць выпускаць гатовую прадукцыю без прамежкавых паўфабрыкатаў. На думку Кабякова, прадукцыя БМЗ будзе запатрабаваная як у Беларусі, так і на знешніх рынках — у такіх буйных машынабудаўнічых карпарацыях, як «Mercedes» і BMW.

«Цяпер вялікая колькасць металургічных прадпрыемстваў маюць цяжкасці, зачыняюцца, прычым не толькі ў Расійскай Федэрацыі. Фактычна ў гэтай галіне ідзе барацьба за выжыванне. Аднак ёсць упэўненасць, што БМЗ выйдзе з няпростай сітуацыі мацнейшым», — заявіў кіраўнік урада.

## Віталь Гуркоў

**Дзесяціразовы чэмпіён свету па муай-тай звольнены з Міністэрства спорту, і пад пагрозай апынуўся ягоны выезд на першынства свету па гэтаму віду барацьбы.**



Нагадаем, што сёлета Гуркоў упэўнена перамог на чэмпіянаце Беларусі па муай-тай і павінен быць адным з першых у спісе кандыдатаў на паездку ў Швецыю. Але быў звольнены.

«Афіцыйна я сышоў па згодзе бакоў, — тлумачыць Гуркоў. — Усё пачалося з таго, як я стаў выступаць у складзе «Brutto». Спачатку гэта ўсім падабалася. Да таго ж, усе ведалі пра маю пазіцыю наконт беларускай мовы. Музычная дзейнасць не перашкодзіла мне перамагчы на чэмпіянаце Еўропы. Потым я чарговы раз стаў чэмпіёнам Беларусі, павінен быў ехаць на Чэмпіянат свету–2015, але траўмаваўся. У той час змяніўся старшыня Федэрацыі муай-тай і кікбоксінга. Ім стаў генерал-маёр унутраных войск МУС Юрый Караеў. На адным з пасяджэнняў Федэрацыі абмяркоўвалі артыкулы з сайтаў. Быў там і мой фотаздымак з капай, на якой выяўлена «Пагоня». Сітуацыю выставілі так, што ў зборнай я вораг і апазіцыянер. Мяне схілялі напісаць заяву па ўласным жаданні. Я гэтага не зрабіў. У выніку мы дамовіліся, што я дапрацую да канца кантракта і сыду».

Галоўны трэнер зборнай беларускіх тайбаксёраў Міхаіл Сцяпанаў кажа, што ў алімпійскі год ёсць праблемы з фінансаваннем, і таму пільна падыходзяць да выбару ўдзельнікаў чэмпіянату свету. «Мы адправім на чэмпіянат наймацнейшых. Гуркоў і трэніруецца, і спявае. Мне не зусім спадабалася, як ён выступіў на чэмпіянаце Беларусі. Ён быў трошкі мацнейшы за другога нумара зборнай, але я не сказаў бы, што на галаву. Канчатковае рашэнне будзе прымаць прэзідыум Федэрацыі», — кажа Сцяпанаў.

# У Беларусі будзе «Салідарнасць»

Сяргей ПУЛЬША

**Перамовы прадпрымальнікаў з уладай прадказальна зайшлі ў тупік. Таму бізнесоўцы змушаны рабіць тое, ад чаго ўвесь час адхрышчваліся ўсімі рукамі і нагамі, — лезці ў палітыку. Як кажуць: «Калі ты не займаешся палітыкай — палітыка зоймецца табой».**



Алесь Макаеў, Анатоль Змітровіч і Міхаіл Латышаў на пасяджэнні Камітэта па выратаванні прадпрымальніцтва

«Прадпрымальнікі выйшлі на працу, і могуць адносна бяспечна працаваць да 1 ліпеня. Пасля 1 ліпеня дамоваў з уладамі наконт праверак у прадпрымальнікаў няма, і ліпень — жнівень будуць вельмі «гарачымі» для прадпрымальнікаў. Працоўная група, створаная пры Міністэрстве эканомікі, за тры тыдні не правяла ніводнага пасяджэння. Можна казаць, што ў гэтым кірунку перамовы з уладаю скончаныя. Але пытанні нікуды не падзеліся, і іх трэба вырашаць», — сказаў на пасяджэнні Камітэта выратавання прадпрымальніцтва, які быў створаны з ініцыятывы хрысціянскіх дэмакратаў, Анатоль Змітровіч, адзін з лідараў прадпрымальніцкага руху.

Камітэт выратавання прадпрымальніцтва выпрацаваў стратэгію абароны ІП, якая наўрад ці спадабаецца ўладам. Канчатковай мэтай гэтай стратэгіі з'яўляецца стварэнне моцнага прадпрымальніцкага прафсаюза «Салідарнасць». А прамежкавыя крокі прадпрымальнікаў дададуць шмат непрыемных хвілінаў для ўладаў.

Першы крок ужо абвешчаны — гэта збор 50 000 подпісаў пад зваротам у Палату прадстаўнікоў, Вярхоўны суд і Канстытуцыйны суд з патрабаваннем прызнаць указы №222 і № 48 не адпаведнымі Канстытуцыі краіны, спыніць пераслед індывідуальных прадпрымальнікаў па абвінавачванні ў несапраўднасці дакументаў, якія пацвярджаюць выраб тавараў, што набытыя і рэалізуецца ў межах адзінай эканамічнай прасторы Беларусі і Расіі, і падрыхтаваць уніфікаваны з міжнародным заканадаўствам нарматыўна-прававы акт аб умовах дзейнасці прадпрымальнікаў.

Збор подпісаў плануецца ажыццявіць як на рынках, сярод ІП, так і шляхам правядзення мітынгаў і масавых акцый. Гэтым разам прадпрымальнікі будуць спрабаваць атрымаць дазволы на вулічныя мерапрыемствы. Як зазначыў Алесь Макаеў, старт вулічным акцыям дадуць рэгіёны: Маладзечна, Жодзіна, Барысаў, Светлагорск і Баранавічы. Акцыі плануецца правесці па ўсёй краіне. На гэтых жа мітынгах людзей паспрабуюць запісаць у новы прафсаюз, а дзейсным прадпрымальнікам патлумачаць, як паводзіць сябе падчас праверак.

Адначасна ІП накіруюць зварот да старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, каб прадпрымальнікаў уключалі ва ўчастковыя выбарчыя камісіі. «Прадпрымальнікі застаюцца без працы. Навошта адцягваць ад працы настаўнікаў, урачоў, дзяржслужбоўцаў, калі ў краіне ёсць людзі, якія вольныя па часе, умеюць добра ўсё лічыць, камунікабельныя», — зазначыў Змітровіч.

Зараз ІП пачынаюць вылучэнне сваіх прадстаўнікоў ад прадпрымальніцкіх калектываў і рынкаў на Усебеларускі народны сход.

Прамежкавы вынік стратэгіі дзеянняў прадпрымальнікаў — выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, якія адбудуцца восенню гэтага года. «Я ведаю, што шмат прадпрымальнікаў маюць намер удзельнічаць у гэтых выбарах. Мы, пэўна, падрыхтуем для іх адзіную праграму», — сказаў Змітровіч.

Такім чынам, улады, зацісныўшы прадпрымальнікаў, стварылі сабе вялікія праблемы, і не толькі ў выглядзе прадпрымальніцкіх страйкаў, нявыплаты падаткаў і гэтак далей. Праблемы стварыліся палітычныя. Тыя 50 000 подпісаў пад зваротам супраць указа №222, якія прадпрымальнікі маюць намер сабраць за два месяцы, — гэта ўжо неабходныя «па тысячы подпісаў» за вылучэнне як мінімум 50-ці кандыдатаў у дэпутаты. Зразумела, што кандыдаты-прадпрымальнікі маюць і дзейсную базу для агітацыі — на рынках, якія наведвае ці не ўсё насельніцтва краіны. Зразумела таксама, што прадпрымальнікі — гэта людзі, якія ўмеюць стасавацца з людзьмі і прадаваць тавар. У якасці тавару будуць выступаць самі кандыдаты-бізнесоўцы. А калі яны зоймуцца падлікам галасоў з naзіраннем...

Калі б у краіне былі выбары, я думаю, што палова са складу новай Палаты прадстаўнікоў была б прадпрымальніцкай. Але і без таго ў выбарчых камісій будзе складаная і амаль невыканальная задача па супрацьдзеянні актыўным, жорсткім, і бітым жыццём прадпрымальнікам.

Галоўнае, каб ІП самі не спужаліся сваёй жа ідэі заняцца палітыкай. Але, падаецца, зараз ім губляць няма чаго, — у іх усё ўжо адабрана. Калі гэтыя планы спраўдзяцца — нас можа чакаць цікавая парламенцкая кампанія.

А ўжо ці дойдуць «індывідуалы» да канчатковай мэты — стварэння буйнога і моцнага прадпрымальніцкага прафсаюза, — пабачым ужо пасля выбараў.

# Расійскія інтарэсы засталіся

Генадзь КЕСНЕР

**Расія не збіраецца адмаўляцца ад намеру прыбраць некаторыя беларускія прадпрыемствы. Ёсць яшчэ смачныя кавалкі ў беларускай эканоміцы, асабліва ў абарончай сферы. Пра тое, на што паклала вока Масква, распавёў ваенны аглядальнік Аляксандр Алесін.**



Фота belpravda.org

***— Што цікавага ёсць у Беларусі для Расіі?***

— Найперш, гэта Мінскі завод колавых цягачоў (МЗКЦ). А таксама «Інтэграл», «Пеленг». Гэта тры асноўныя козыры Беларусі ў галіне ваенна-прамысловага комплексу (ВПК). Менавіта гэтыя прадпрыемствы з'яўляюцца жыццёва важнымі пастаўшчыкамі камплектуючых і вузлоў для расійскай абароннай прамысловасці, у тым ліку і для стратэгічнага патэнцыялу Расіі.

***— Расія сама не ўстане вырабляць падобную тэхніку?***

— Напрацоўка гэтых тэхналогіяў вялася дзесяцігоддзямі, пры СССР у яе былі ўкладзены вялікія грошы. Канешне, у выпадку, калі Расія паўторыць гэты шлях, калі ўкладзе грошы, знойдзе навуковыя кадры, у яе гэта можа атрымацца. Але ёсць такое паняцце, як навуковыя школы, што развіваліся шмат гадоў, якія маюць традыцыі, калі перадаецца досвед ад старэйшых да маладзейшых.

Перыяд паміж распадам Савецкага Саюза і цяперашняй эпохай прывёў да таго, што шэраг школ у Расіі былі страчаныя. У Беларусі яны таксама знаходзіліся на небяспечнай мяжы знікнення, але кіраўніцтва Беларусі ў дадзеным выпадку паступіла мудра: былі падтрыманыя канструктары, навукоўцы, акадэмічная навука, галіновая навука, і ў выніку школа цяжкога аўтамабілебудавання ў нас захавалася. Захаваліся кадры і на «Інтэграле», «Пеленг» перажывае сваё развіццё. Таму гэты шлях нам праходзіць не трэба, магчыма, толькі нешта ажывіць і падправіць. А Расіі трэба ўсё пачынаць наноў. Трэба ўкладаць грошы, але самае важнае, што трэба рыхтаваць кадры. А гэта самае складанае.

Яны, канечне, могуць гэта зрабіць, але зараз Расія ўступіла ў гонку ўзбраенняў з ЗША, асабліва стратэгічных узбраенняў, і няма часу, каб зрабіць паўзу, трэба бегчы, бегчы і бегчы. Таму пры ўсім сваім жаданні не быць залежнымі ад Беларусі, па шэрагу пытанняў расіяне ўсё ж змушаныя звяртацца да нашых прадпрыемстваў. Асабліва пасля таго, як Украіна адмовілася супрацоўнічаць з Расіяй у галіне ваенна-прамысловага комплексу. І ўтварыўся шэраг нішаў, якія беларусы хутка запоўнілі.

Мы, натуральна, не можам вырабляць гатовыя ракеты, як Украіна, не можам вырабляць ракеты для авіяцыйных сістэм, не можам вырабляць танкі. Але мы можам вырабляць ваенную электроніку, сродкі радыёэлектроннай барацьбы, радыёлакацыйныя станцыі, сродкі сувязі, спадарожнікавыя аптычныя сістэмы для зандавання зямлі, колавыя цягачы для ракет, якім няма аналагаў у свеце. Таму расіяне змушаны ісці да нас.

***— І што ім ад нас трэба?***

— Яны б папросту хацелі выкупіць гэтыя прадпрыемствы і вырашыць пытанне, зрабіўшы іх сваёй уласнасцю. Але Лукашэнка выкарыстоўвае гэтыя прадпрыемствы як козыр у гандлі з расіянамі, інакш кажучы, ён не спяшаецца скідаць апошнія козыры, тым больш што ў нас іх зусім няшмат. Тое, што жадаюць набыць расіяне ў Беларусі, можна пералічыць на пальцах рук. Таму кіраўнік дзяржавы гэтыя прадпрыемствы зберагае, і не будзе развітвацца з імі да самага апошняга моманту.

***— Чаму не атрымалася з холдынгам МАЗ—КамАЗ?***

— Пасля распаду СССР кожнае з гэтых прадпрыемстваў жадала выйсці на поле свайго былога партнёра, а цяпер канкурэнта. У выніку КамАЗ узняўся на больш цяжкую нішу — МАЗа і КрАЗа, і ў выніку яны стварылі аналагічны танажны шэраг. Калі быў эканамічны ўздым і павышаны попыт на грузавікі, КамАЗ жадаў прыхапіць МАЗ як зборачную пляцоўку. Апроч таго, яны хацелі скарыстацца тэхналагічнымі напрацоўкамі мазаўскіх канструктарскіх бюро.

**При ўсім сваім жаданні не быць залежнымі ад Беларусі, па шэрагу пытанняў расіяне ўсё ж змушаныя звяртацца да нашых прадпрыемстваў**

КБ МАЗа маюць вялікі досвед працы, у тым ліку, і на абаронную прамысловасць, па стварэнні магістральных аўтамабіляў, сядзельных цягачоў і гэтак далей, таму холдынг — гэта была задума КамАЗа. Але пасля таго, як рынкі сціснуліся, КамАЗу стала няма куды прадаваць нават сваю ўласную прадукцыю.

МАЗ, у сваю чаргу, хацеў атрымаць доступ да камазаўскіх дылерскіх цэнтраў, тым самым выйсці на рынак. Але Лукашэнка забаяўся, што дадуць малую цану, а па-другое, што МАЗ ператворыцца ў зборачную пляцоўку для вырабу мадэляў КамАЗаў для еўрапейскага рынку.

А на МАЗ у нас замкнёныя і політэхнічны інстытут, і цэнтр машынабудавання ў Акадэміі навук, то бок, гэта цэлая сістэма, цэлы кластэр. Таму Лукашэнка і змагаўся за тое, каб захаваць больш правоў МАЗа. Але КамАЗ ад такой ідэі адмовіўся, а цяперашнія крызісныя з'явы паставілі на ўсім гэтым крыж.

***— Ці ёсць у Масквы шансы набыць у Беларусі тое, што хочацца?***

— Тры згаданыя вышэй ваенныя, два нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы, ну, магчыма, яшчэ калійны камбінат — гэта тыя прадпрыемствы, якія беларускае кіраўніцтва будзе імкнуцца захаваць за сабой да апошняга.

Але справа ў тым, што Расія не жадае поўнага эканамічнага крызісу ў Беларусі. Яна хоча прыціснуць Лукашэнку, але не да смерці. Бо калі ў нас адбудуцца падзеі, аналагічныя ўкраінскім, тады Расія страціць калідор у Еўропу. Таму Масква, канешне, цісне на Лукашэнку, але канчаткова кісларод не перакрывае. Вось і крэдыт далі. Таму Лукашэнка мае магчымасць для манеўра і будзе манеўраваць яшчэ доўга.

**Ў Гэта я — беларускамоўны**

**Мы працягваем знаёміць вас з гісторыямі людзей — удзельнікаў «Перапісу беларускамоўнага насельніцтва», праведзенага вядомымі курсамі беларускай мовы «Мова нанова». Перапіс, у якім прынялі ўдзел каля дзвюх тысяч чалавек, засведчыў, што беларуская мова становіцца папулярнай сярод людзей самых розных прафесій.**

# У камеры нават грузін размаўляў па-беларуску

Таццяна ШАПУЦЬКА

### Дзмітрый Кашлач, праграміст, Барысаў:

— На беларускую мову я перайшоў недзе гады два таму. Проста падчас вандровак, калі шмат часу для размоваў «за жыццё», так бы мовіць, сам пакрысе прыйшоў да гэтай думкі. Паглядзеў, як у іншых краінах ставяцца да ўласнай культуры, зразумеў, што ў нас зусім тут не ўсё правільна. І захацелася гэта ў самім сабе выправіць. Цяпер ужываю беларускую мову паўсюль, апроч працы, дзе карыстаюся пераважна англійскай і рускай.

Мінулым летам мы са знаёмымі патрапілі ў Нарвегію. І калі ўжо вярталіся да арэндаванага жытла, на набярэжнай Осла пачулі: «Прывітанне!» Да нас на роварах пад'ехаў хлопец, які пяць гадоў таму з'ехаў з Беларусі. Ён распавёў, што ўпершыню за гэтыя гады пачуў беларускую мову ў Нарвегіі.







**10 сутак хапіла, каб зразумець, што не так у нашай краіне з роднай мовай, чаму яна настолькі сканцэнтравалася ў турэмнай камеры, калі нават грузін размаўляў на ёй**

### Андрэй Колас, выкладчык, Ваўкавыск:

— Беларуская мова ўвайшла ў маё жыццё паступова. Спачатку, з другога па чацвёрты клас, быў проста школьны факультатыў. Пасля з пятага па адзінаццаты — ужо паўнавартасныя заняткі ў школе. Але ж школа дала разуменне мовы, а не карыстанне ёю. Пасля ў каледжы чытаў беларускую літаратуру і спрабаваў размаўляць па-беларуску на занятках і з беларускамоўнымі сябрамі. У выніку пасля дзесяці гадоў навучання пачаў часам карыстацца мовай у паўсядзённым жыцці.

Цяпер я выкладаю цалкам на роднай мове. Дома і на працы размаўляю прыблізна так: 60 працэнтаў трасянка і беларуская мова, 40 працэнтаў — руская мова. У інтэрнэце і ліставанні на 70 працэнтаў выкарыстоўваю толькі беларускую мову.

Аднойчы ў аддзеле культуры аднаго з райвыканкамаў Мінскай вобласці супрацоўнік пасля размовы са мной (я размаўляў выключна па-беларуску) пачаў адказваць камусьці на тэлефонны званок, дзверы ён не зачыніў, размаўляў вельмі гучна, і я ненаўмысна стаў сведкам гэтай размовы. І вось што я пачуў (цытую даслоўна): «Саша, я опоздаю, тут у меня один чел был, хер пойми, как говорит, х.й пойми что хочет...» Вось так... І гэта аддзел культуры райвыканкама! Аднак не паўсюль такія неадукаваныя людзі працуюць у аддзелах культуры, канешне. Напрыклад, у маім родным Ваўкавыску аддзел культуры вітае беларускую мову, а таксама вядзе частку дакументаабароту і справаздач па-беларуску.

### Наталка Белазёрава, танцорка, Мінск:

— На беларускую мову я перайшла ў восьмым класе. Хацелася і раней — мне заўжды было незразумела, чаму я размаўляю на мове суседняй краіны. Але не рашалася пачаць размаўляць на сваёй мове, ды я яе тады толкам і не ведала. А ў восьмым класе «фінальным штуршком» была такая дробязь, што зараз ад гэтага становіцца смешна. Я пакрыўдзілася на выкладчыцу рускай мовы, ужо не памятаю нават, чаму. Прыйшла дамоў і кажу маці, што ад цяперашняга моманту я размаўляю выключна па-беларуску. Маці ўспрыняла з пазітывам. З таго часу я стала карыстацца беларускай мовай паўсюль, апроч школы: школа была рускамоўная, і былі пэўныя праблемы з адміністрацыяй, а дзіцём я тады яшчэ не была ў стане нешта даказваць. Аднак усе аднакласнікі і настаўнікі ведалі, што калі мне, напрыклад, патэлефанаваць па-за школай, то я не пераключалася на рускую мову.




Падчас вучобы ў БДУ ўсе лекцыі пісала па-беларуску, усе курсавыя — па-беларуску. Зараз, аднак, больш карыстаюся польскай у сувязі з маім цяперашнім месцазнаходжаннем (Наталка цяпер вучыцца ў Польшчы. — аўт.). Былі, вядома, і ў БДУ праблемы з некаторымі выкладчыкамі, і ў кавярнях мне ўпарта не хацелі прыносіць зялёную гарбату з цытрынай без цукру... Але за восем год я навучылася на гэтыя дробязі не звяртаць увагу. Не вельмі прыемнай была сітуацыя на ўкраінскім праекце «Танцюють всі», у якім я прымала ўдзел у кастрычніку 2015 года (пачуўшы беларускамоўныя адказы Наталкі, чальцы журы пачалі смяяцца і заявілі, што не разумеюць мовы. — аўт.). Хаця я і не лічу гэты выпадак такім ужо скандалам, як выказваліся людзі падчас бурных абмеркаванняў у інтэрнэце.

### Яўген Батура, інжынер-даследчык, Мінск:

— Шчыра кажучы, шэсць гадоў таму беларускай мовай я не карыстаўся ўвогуле. Пераломны момант настаў пасля сумных падзеяў снежня 2010 года, калі, арыштаваны ля Чырвонага касцёла падчас масавых абурэнняў супраць фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў, я апынуўся ў маленечкай камеры з высокаадукаванымі беларускамоўнымі людзьмі. За дзесяць сутак час прыйсці ў сябе і зразумець, што не так у нашай краіне з роднай мовай, чаму яна настолькі моцна сканцэнтравалася вакол мяне ў турэмнай камеры, калі нават грузін (яго імя Торнікі), размаўляў на ёй. Вось ён і даў мне першыя лінгвістычныя ўрокі.

Зразумела, спачатку я саромеўся размаўляць на беларускай мове, карыстаўся толькі ў сацыяльных сетках. Дзякуй Богу, мяне пераканалі, што лепш пачаць гаварыць адразу, з памылкамі і недакладнасцямі, чым бясконца ўдасканальваць яе тэарэтычна, баючыся прамаўляць услых. Вялікі дзякуй за гэта Галіне Васільеўне Сіўчык (мама вядомага палітыка Вячаслава Сіўчыка. — аўт.), з якой я пазнаёміўся зноў жа ля Чырвонага касцёла, падчас малітвы за Беларусь. З таго часу, з часу пераходу на беларускую мову, стала імкліва мяняцца кола маіх знаёмстваў — як снежны ком пачала нарастаць у маім жыцці колькасць беларускамоўных сяброў, мерапрыемстваў, падзей. Я паступіў у Беларускі Калегіюм. У мяне, чалавека з цалкам тэхнічнай адукацыяй і працай, найперш дзякуючы мове, з'явіўся сапраўдны і нязгасны інтарэс да гісторыі, культуры і месца нашай Бацькаўшчыны сярод іншых народаў свету. Да таго ж стала значна лягчэй размаўляць з блізкімі замежнікамі — украінцамі ды палякамі, прынамсі, я пачаў іх добра разумець. Кульмінацыяй жа стала знаёмства з беларускамоўнай дзяўчынай, што, нарэшце, дазволіла мне штодзённа размаўляць на беларускай мове і дома. Але руская мова на працы засталася, на жаль. Апынулася нечакана цяжка змяніць сябе тут. Зараз якраз думаю, што з гэтым рабіць.

Самае прыемнае, што дае для мяне беларуская мова, — гэта пачуццё еднасці. Еднасці з людзьмі, якія маюць падобныя да тваіх думкі, жывуць сходнымі марамі і надзеямі, дбаюць пра будучыню краіны шчыра і з болем у душы. Такіх людзей вельмі і вельмі шмат. І вельмі кранальна, калі праз цябе да гэтай супольнасці далучаецца хтосьці яшчэ, хоць нават адзін чалавек.






# Беларусь зачышчаюць

## Адмашку на зачыстку далі з цэнтру, але з якога — гэта пытанне



Зміцер ГАЛКО

**Не так даўно ў незалежных беларускіх СМІ з'явілася інфармацыя пра «хвалю рэпрэсій за падтрымку Украіны». Але ці сапраўды праслед некаторых актывістаў можна лічыць пачаткам сапраўды маштабных і сур'ёзных рэпрэсій?**




Фота www.svaboda.org

Андрэй Стрыжак, каардынатар Гуманітарнага маршрута Беларусь—АТО, з якім мы пагутарылі, вельмі скептычна паставіўся да «нагнятання панікі».

«Па-мойму, тое, што я зараз размаўляю з табой, а не са следчым, красамоўна сведчыць пра адсутнасць татальнай зачысткі ўсіх, хто звязаны з Украінай. Усё ціха, ніхто нас не чапае. Нядаўна адправілі шостую тону дапамогі, зараз рыхтуем сёмую. Учора праз нашае пасярэдніцтва ўкраінскае прадстаўніцтва «Санта Брэмар» даставіла ў Бахмут больш за дзвесце кілаграмаў селядцоў для бежанцаў. Усё ідзе згодна з планам», — сказаў Андрэй.

Ён выказаў думку, што рэпрэсіі маюць хутчэй паказны і кропкавы характар. Магчыма, гэта нейкая не вельмі ахвотная дэманстрацыя лаяльнасці пасля атрымання грошай з Расіі, але ўлады і самі не хочуць заходзіць далёка. Андрэй таксама падзяляўся суб'ектыўным меркаваннем, што зачэпіць, хутчэй за ўсё, тых, хто і ўкраінскім уладам не вельмі даспадобы праз свой удзел у акцыях пратэсту ў Кіеве. Прынамсі, на яго погляд, гэта было б у духу беларускіх уладаў — рабіць рэверансы і нашым, і вашым.

### Адхрысціцца ад Украіны

Але, на мой погляд, маштабы рэпрэсій значна большыя, чым магло падацца. Гаворка ідзе не проста пра ціск,ператрусы, апытанні, а ўжо і пра крымінальныя справы, пра арыштаваных і асуджаных. Не выключана, што пад махавік трапілі дзясяткі чалавек.

Прычым, што самае важнае, рэпрэсіі вядуцца не толькі, а можа, і не столькі супраць тых, хто непасрэдна быў звязаны з Украінай тым ці іншым чынам. Рэпрэсіі скіраваны на тых людзей, якія ў выпадку магчымага ўварвання ў Беларусь з боку «заклятага саюзніка» маглі б стаць першымі, хто выступіць у абарону суверэнітэту і цэласнасці краіны. То бок супраць беларускіх патрыётаў, меркавана здольных біцца за сваю зямлю і праўду.

Кіеўская валанцёрка Вольга Галчанка шмат апякуецца беларусамі на ўкраінскім фронце. Анёл-ахоўнік беларускіх добраахвотнікаў ва Украіне. Я спытаў у яе, што ёй вядома пра «хвалю рэпрэсій за падтрымку Украіны».

Валанцёрка не можа назваць дакладную лічбу, але сцвярджае, што праваахоўнікі «прыйшлі ва ўсе сем'і нашых хлопцаў, якія зараз знаходзяцца на фронце, нават да зусім не засвечаных людзей».

«Прыходзяць да сваякоў, да сяброў, да блізкіх людзей, і пачынаюць гутаркі на тэму, а мы вось ведаем, што ваш муж, сын, брат, сябар паехаў найміцам на вайну, доўга дапытваюць, вывуджваюць інфармацыю, потым яшчэ іператрус ладзяць. Пры гэтым адбіраюць усе сродкі сувязі і электроніку — ноўтбукі, тэлефоны, планшэты… Улічваючы, што бацькі байцоў — гэта ў асноўным ужо людзі ва ўзросце, для іх нават такія гутаркі — вельмі вялікі стрэс», — гаворыць Вольга.

На думку Вольгі, апошняй кропляй, якая справакавала абвастрэнне рэпрэсій, стала ўрачыстае адкрыццё памятнага знака ў Кіеве 28 сакавіка, прысвечанага загінулым за Украіну беларусам. Выкананага ў бел-чырвона-белай гаме, з гербам «Пагоня», надпісамі «Слава Украіне!» і «Жыве Беларусь!».

«Гэта раз'юшыла беларускія ўлады, на мой погляд, з дзвюх прычынаў. Першая — гэта тое, што краіна была прадстаўлена неафіцыйнымі сімваламі. Нягледзячы на адсутнасць прамой забароны, як я разумею, яны разглядаюцца ўладамі як чужыя і варожыя. Другая — публічная дэманстрацыя саюза двух народаў. Мне здаецца, кіраўніцтва Беларусі, якое бызцам бы падтрымлівае Украіну, зыходзіла з прынцыпу: сяброўства сяброўствам, але грошыкі дае Масква, таму больш карысным у гэты момант будзе адхрысціцца ад Украіны», — мяркуе Вольга.

### «Сацыяльна блізкі элемент»

Наступны мой суразмоўца — камандзір Тактычнай групы «Беларусь» з псеўданімам Васіль Каляда — поўнасцю пацвердзіў словы Вольгі пра маштаб рэпрэсіяў. Але падкрэсліў, што іх нельга назваць спантаннымі. Улады цікавіліся тымі, хто паехаў ва Украіну, з самага пачатку. Інфармацыя збіралася ў тым ліку праз электронную выведку. Былі ў іх і свае людзі ў батальёнах, якія злівалі спісы байцоў. Хадзілі па дамах і апытвалі таксама даўно. Проста цяпер, мабыць, інфармацыі сабралася дастаткова, а тут яшчэ і расійскі крэдыт атрыманы. Вось і прагучала каманда «фас»!

Васіль кажа, што ўлады вельмі спалоханыя атрыманнем баявога досведу нелаяльна настроенымі беларусамі. Таму, паводле яго інфармацыі, плануюцца змены ў беларускім заканадаўстве, якія дазволяць падвесці пад артыкул аб «найміцтве» тых, хто ваяваў з ідэйных меркаванняў, не атрымліваючы грашовай узнагароды, а таксама валанцёраў, якія дапамагалі зборам сродкаў, прадуктаў, медпрэпаратаў, адзення.

«Гэта юрыдычны нонсэнс. Але калі загадаюць, яны тое зробяць», — кажа Васіль.

Ён таксама звярнуў увагу на адсутнасць звестак пра рэпрэсіі ў дачыненні да тых, хто ваюе на баку ДНР/ЛНР. Наадварот, ёсць факты вельмі «гуманнага» стаўлення да іх.

«Выглядае на тое, што ў іх улады бачаць сацыяльна блізкі элемент. Ведаеце, як у сталінскія часы падзялялі арыштантаў: палітычныя — ворагі народу, гэта цяпер мы, а крымінальнікі — сацыяльна блізкі элемент», — гаворыць Васіль.

Яго здзіўляе паблажлівае стаўленне ўладаў да байцоў за «народныя рэспублікі», якія, на погляд Васіля, уяўляюць большую патэнцыйную пагрозу для беларускіх уладаў.

«Для іх абсалютна чужая ідэя незалежнай Беларусі, яны на Данбасе праліваюць кроў за адналенне імперыі. Што і нашу краіну ў недалёкай будучыні можа закрануць. Тады яны павернуць зброю супраць беларускай дзяржавы. А вось ці застанецца хто-небудзь, хто ўстане на яе абарону, калі прыхільнікаў вольнай незалежнай Беларусі перасаджаць?» — тлумачыць сваю пазіцыю Васіль.

### Улады цікавіць не «найміцтва»

Распавядаючы пра тых, хто трапіў пад рэпрэсіі, камандзір згадаў Віктара Мельнікава, бацьку Яна Мельнікава. Бацьку выклікалі на допыт у ГУБАЗіК, потым супрацоўнікі ГУБАЗіК і КДБ праводзілі ў яго домаператрус. Забраўшы пры гэтым і ягоныя ўласныя рэчы таксама.

Праз інфармацыю ад Віктара і пацягнулася згаданая вышэй нітачка. Мяне цікавіла пытанне — з якім настроем праваахоўнікі рабілі сваю справу, што іх цікавіла найбольш, ці можна па іх паводзінах вызначыць, пад каго і для чаго яны насамрэч капаюць.

Наколькі можна меркаваць са словаў Віктара, цікавіў праваахоўнікаў зусім не факт «найміцтва». Напрыклад, нашыўкі і шаўроны з Украіны падчасператрусу не канфіскоўваліся. Зусім не зацікавілі іх і граматы Яна за розныя дасягненні, хаця крымінальная справа датычыць пэўнага асабістага выбару хлопца, то бок характарыстыка яго асобы таксама нібыта павінна мець значэнне. Але ж не.

Пры гэтым іх вельмі зацікавіў нататнік з сімвалам анархізму на вокладцы, які Ян вёў у шаснаццаць гадоў. А найбольш цікавілі ягоныя кантакты з фанатамі ўжо няіснага футбольнага клубу «Партызан».

«З размоваў са старшым упаўнаважаным ГУБАЗ палкоўнікам Раманам Кіжапкіным, чалавекам адукаваным і разумным, у мяне склалася ўражанне, што ім не цікавыя тыя, хто з'ехаў ва Украіну і цяпер ужо, мабыць, не хутка вернуцца. Іх цікавяць беларусы, у якіх патрыятызм спалучаецца з гатоўнасцю дзейнічаць і даваць адпор пры неабходнасці… Калі ж улічваць іх паблажліва-ўхвальнае стаўленне да байцоў «народных рэспублік»… Дарэчы, ад таго ж Кіжапкіна я ведаю, што гаворка ідзе пра дзясяткі ўзбуджаных крымінальных справаў», — гаворыць Віктар.

### Мабыць, таму… што ён патрыёт?!

Па наводцы Віктара Мельнікава распытваю жонку Іллі Валавіка, заўзятара футбольнага клубу «Партызан», які быў арыштаваны і змешчаны 23 сакавіка ў ізалятар па справе двухгадовай даўніны, звязанай з шараговай бойкай паміж фанацкімі групоўкамі.

Алена Валавік зараз на сёмым месяцы цяжарнасці, ад перажытага падчас арышту мужа стрэсу яна трапіла ў шпіталь, дзе застаецца і дасюль. Яна троху пабойваецца размаўляць, бо Ілля дасылае ёй з ізалятару лісты, у якіх просіць нічога не рабіць і наогул не падымаць шум вакол яго, таму што гэта яму нібыта толькі нашкодзіць.

Алена распавядае, што Ілля ўжо даволі даўно перастаў браць удзел у фанацкім жыцці. Чакалі дзіцёнка, уладкоўвалі сямейнае гняздзечка, ён быў скандэнтраваны на спорце і на будучай працы трэнерам. Публічнай фігурай не быў, і нават у інтэрнэце не выступаў з якімі-небудзь палітычнымі каментарамі. У адрозненне ад Алены, якая калісьці была актывісткай моладзевай апазіцыйнай арганізацыі, ён да палітычнай актыўнасці ў Беларусі ставіўся скептычна, гаворачы, што «найперш трэба мяняць свядомасць людзей».

Аднак стаўленне да яго ў праваахоўных органаў відавочна асаблівае — Алена кажа пра допыты дзясяткаў чалавек, з якіх спрабуюць выбіць розную інфармацыю пра Іллю, якая не мае ніякага дачынення да справы аб фанацкай сутычцы. І самога Іллю спрабавалі завербаваць у абмен на свабоду. Яшчэ раней — раілі з'ехаць з краіны і не вяртацца, ад чаго ён таксама адмовіўся.

«Ілля — чалавек гонару і прынцыпаў. Для яго, напрыклад, неймаверна здрадзіць сваім сябрам. Ён вельмі любіць гісторыю Беларусі, наогул вялікі патрыёт. Мабыць, яны праз тое на яго і вышчарыліся так, праз тое, што ён патрыёт?» — кажа Алена.

І дадае цікавы факт — Ілля заўсёды выступаў супраць «рускага свету».

«Ілля катэгарычна не прымаў тых, хто зігуе і крычыць «Слава Расіі!», сярод беларускіх фанатаў ёсць і такія, у асноўным сярод дынамаўцаў. Ілля ж ганарыўся менавіта сваёй краінай і любіў яе», — распавядае Алена.

### Чаго ты яшчэ не ў турме?

Сустракаемся ва ўмоўленым месцы з двума лідарамі фанацкіх групак. Назавем іх Сашам і Сяргеем. Яны — прадстаўнікі старой гвардыі, якія добра памятаюць яшчэ далёкія

# ад патрыётаў

дзевяностыя. Праз сваю багатую біяграфію яны вельмі шмат каго ведаюць, у тым ліку сярод прадстаўнікоў розных праваахоўных органаў. Адзін з іх перакананы «правы», другі — не менш перакананы «левы». Аб'ядноўвае іх агульны вораг — агрэсіўны «рускі свет», чыёй магчымай экспансіі яны гатовыя супрацьстаяць пры неабходнасці.

Пры сустрэчы адзін з адным яны жартуюць: «А чаго гэта ты яшчэ не ў турме?». Бо за першым, паводле іх расповеду, сачылі на самым высокім узроўні — на аўтамабілі «Паршэ Каен», а да другога ўначы ўжо ўрывалася група «Алмаз» на яго канспіратыўную кватэру. Хаця яны і выбачыліся ўрэшце — маўляў, памыліліся адрасам, — намёк хлопец добра зразумеў.

Увогуле, фанацкія «фірмы» — адны з самых закрытых грамадскіх суполак. Яны цярпець не могуць журналістаў, канспіруюцца і стараюцца маўчаць, захоўваючы таямніцу свайго фанацкага жыцця, нават у выпадках праследу з боку міліцыі.

Але цяпер ім ужо не да гэтых прынцыпаў. Сяргей з Сашам кажуць, што фанацкі рух у Беларусі цалкам разгромлены, пад раздачу патрапілі ўсе групоўкі, за выняткам тых, якія заўжды кантраляваліся міліцыяй. Па нейкім супадзенні, дадаюць хлопцы, гэта тыя ж групоўкі, якія «прыходзяць на сектары з імперкамі (бела-жоўта-чорны сцяг Расійскай імперыі — аўт.)».

## Быць моцным і мець сваю тэрыторыю

Тут варта зрабіць адступленне і згадаць пра неадназначнае стаўленне да фанатаў у беларускім грамадстве.

Вельмі многія ўспрымаюць іх як агрэсіўных «гопнікаў», якія наносяць шкоду футболу, адважваючы ад яго сваімі выхадкамі «нармальных людзей». Якія праз фанатаў сем разоў падумаюць, перш чым ісці на матч, тым больш з дзіцём. Такія людзі лічаць, што фанатаў трэба забараніць, адправіць на разгрузку вагонаў, палявыя працы або ў войска. І заадно адабраць права бясплатна лячыцца — маўляў, з-за такіх падшыванцаў грамадзяне, якія аплачваюць бясплатную медыцыну са сваіх падаткаў, вымушаныя стаяць у чэргах на аперацыі.

Але гэтым успрыняцце фанатаў не вычэрпвалася. Была і іншая пазіцыя, што фанацкі рух — станоўчая з'ява. Сталыя бойкі вымушаюць да іх адпаведным чынам падрыхтавацца, займаючыся спортам, і няхай яны лепш «адпачываюць» так, чым нюхаюць клей і да т.п. І наогул, гэта значыць, што ў народзе яшчэ ёсць сілушка, біцца на вуліцах — гэта вам не серыялы глядзець, лежачы на канапе.

Яшчэ да ўкраінскіх падзеяў пэўная частка палітызаванага сегменту беларускага грамадства летуценна задумвалася пра перспектывы, калі гэтыя хлопцы перастануць мутузіць адзін аднаго і адкажуць на праявы аўтарытарызму «сілавой дэмакратыяй».

Да таго ж, фанацкі рух заўсёды дэманстраваў імкненне «адрозніваць і мець сваю тэрыторыю». Праз што ў ім з цягам часу праявілася жаданне адстойваць беларускую ідэнтычнасць. Нават нямала тых, хто гадоў 10–15 таму прыносіў на матчы «імперкі», цяпер замянілі іх на «Пагоню».

## Калісьці міліцыянты разумелі фанатаў

Аднак, як ні круці, яны «хуліганы». Самі сябе так называюць і, па сутнасці, імі ж з'яўляюцца. Адсюль маё наіўнае пытанне да Сашы і Сяргея: хіба ў праследзе з боку праваахоўных органаў у дачыненні да фанатаў ёсць нейкая навіна?

Хлопцы адказваюць: спроба пад корань вынішчыць фанацкі рух прадпрымаецца ўпершыню ў гісторыі Беларусі. І звязана яна не з «хуліганствам» як такім, на яго раней глядзелі скрозь пальцы. Да прыкладу, кажа Сяргей, у 2009 годзе яны былі зладзілі масавую бойку на дзень нараджэння Лукашэнкі непадалёк ад Дому Міласэрнасці, не ведаючы пра тое, што ён збіраўся туды прыехаць. Жах, кашмар, скандал, падрыў асноў! І што ў выніку? Ды нічога! Нават крымінальная справа не была ўзбуджана. Затрыманні, адміністратыўныя пратаколы, «суткі» — і ўсё.

Неаднойчы праваахоўныя органы, кажа Саша, звярталіся да фанацкіх груповак з рознага кшталту прапановамі супрацоўніцтва. У якасці аднаго з прыкладаў — была прапанова адлоўліваць наркадылераў у абмен на цалкам лаяльнае стаўленне да фанацкіх сутычак. Нават ахову сваю прапаноўвалі — маўляў, біцеся пад наглядам, каб вас ніхто не турбаваў!

Саша з Сяргеем згадваюць шэраг выпадкаў, калі досыць цяжкія траўмы, нанесеныя ў фанацкіх бойках, заканчваліся для вінаватых умоўнымі тэрмінамі. Яшчэ і па той прычыне, што фанат на фаната заяў не пісаў і сведчыць заўсёды адмаўляўся.

Адным словам, праслед раней насіў кропкавы характар, заўжды быў «па справе», ні пра якую «вайну» супраць фанатаў не было і гаворкі.

## Зусім іншая гульня

Цяпер гульня пайшла зусім іншая, кажуць Саша з Сяргеем. Паводле іх звестак, не менш за трыццаць прадстаўнікоў фанацкіх груповак з розных гарадоў Беларусі апынуліся за кратамі.

«Падаставалі з шуфлядаў нейкія запыленыя і зацвілыя справы. Прычым тэрміны цяпер даюць сур'ёзныя, аднаму хлопцу ўляпілі 10 гадоў — за тое самае, за што раней давалі ўмоўны тэрмін!» — гаворыць Саша.

«А памятаеш гісторыю, калі фанаты «Партызана» аблілі ў Мінску мачой з вадзяных пісталетаў вядомага расійскага неанацыста Цесака (Максіма Марцінкевіча. — аўт.)? Ён жа ў адказ разам са сваімі ахоўнікамі зладзіў паднажоўшчыну. Расійскія госці абышліся ў выніку дзесяцідзю суткамі! Хлопца ж, які атрымаў тады глыбокую нажавую рану, пазней адправілі на «хімію», а калі ён знаходзіўся на «хіміі», узбудзілі з пальца высмактаную справу за распаўсюд парнаграфіі, і закрылі ўжо па-праўдзнаму. Адчуйце розніцу», — кажа Сяргей.

Саша з Сяргеем падкрэсліваюць: «закрываюць» фанатаў у асноўным на падставе дзеянняў, якія з'яўляюцца злачынствамі паводле Крымінальнага кодэксу. Аднак «закрываюць» празмерна жорстка, занадта масава, часцяком у сувязі з даўно забытымі правінамі, якія ў іншай сітуацыі нікога б не цікавілі. Таму яны характарызуюць праслед фанацкага руху як палітычна матываваны.

Усё пачалося з масіраваных інфармацыйных укідаў расійскіх СМІ, якія кляймілі беларускіх футбольных фанатаў як «насенне Майдану». Гэта было ўспрынята кімсьці як каманда «фас!».

Перад тварам агульнай пагрозы, беларускія фанацкія групоўкі рабілі ўсе намаганні, каб аб'яднацца, адмовіўшыся ад сутычак паміж сабой. Аднак спецслужбы, нібыта, шляхам правакацый сутыкалі іх паміжсобку, прымушалі адных сведчыць супраць іншых, здраджваючы сваім прынцыпам.

Саша гаворыць, што адмашку на зачыстку далі з цэнтру, але з якога цэнтру — гэта яшчэ пытанне. Ён заклікае прыгадаць вядомы выпадак з затрыманнем фанатаў праз неафіцыйную нацыянальную сімволіку. Тады ўлада прадэманстравала, што яна не зусім адзіная ўсярэдзіне сябе. Нават на праяўленне патрыятызму праз неафіцыйную сімволіку, якую калісьці аднaзначна кляймілі як «варожую», выявілася, там ёсць розныя погляды.

«Міліцэйскі міністр, спадар Шуневіч, абазначыў сябе як галоўнага ворага і фанацкага руху, і нацыянальнага патрыятызму. Паходжанне з Луганскай вобласці ў спалучэнні з любоўю да формы НКУС нейк наводзіць на нядобрыя думкі», — кажа Сяргей.

## Пытанне рубам

Па словах маіх суразмоўцаў, апроч мноства спраў супраць фанатаў, звязаных з дробнымі крымінальнымі эпізодамі, існуе адна мегасправа з шапкай «Арганізаваная злачынная групоўка па падрыхтоўцы здзяйснення дзяржаўнага перавароту». Злачынная групоўкай, абвінавачанай у падрыхтоўцы перавароту, з'яўляюцца фанаты ўжо няіснага футбольнага клуба «Партызан».

Гэтая фанацкая супольнасць — унікальная для постсавецкай прасторы з трох прычынаў.

Першая: доўгі час да таго, як закрыцца, футбольны клуб «Партызан» існаваў цалкам на грошы сваіх заўзятараў. То бок гэта была цалкам самаарганізаваная структура.

Другая: фанаты «Партызана» падзялялі антыфашысцкія погляды, што само па сабе досыць рэдкая з'ява для постсавецкіх, хоць і нярэдкая для еўрапейскіх футбольных фанатаў. За гады свайго існавання яны сталі пераможцамі ў вулічнай барацьбе, падмяўшы ўльтраправых канкурэнтаў.

Трэцяя: нягледзячы на тое, што левыя, антыфашысцкія погляды звычайна звязаны з антынацыянальнымі ўстаноўкамі, у сітуацыі патэнцыйнай пагрозы існаванню Беларусі фанаты «Партызана» перайшлі на беларускую мову, сталі ўключаць нацыянальныя элементы ў сваю сімволіку. І ў цэлым абазначылі сябе як патрыётаў, гатовых адстойваць сваю краіну пры неабходнасці.

Яскравым пацвярджэннем таму з'яўляецца вядомая групоўка «Пошуг», з актывістамі якой была звязаная гучная «справа графіцістаў». Групоўка нарадзілася ў асяродку фанатаў «Партызану». Адтуль жа выйшаў Ян Мельнікаў, вядомы як «беларускі антыфашыст у «Правым сектары».

«Фанаты «Партызану», безумоўна, стаяць на антыаўтарытарных пазіцыях. Аднак яны добра разумелі і разумеюць, што ў сітуацыі вельмі рэальнай пагрозы незалежнасці трэба засяродзіцца на галоўным — абароне незалежнасці. Настолькі, наколькі дзяржава з'яўляецца гарантам незалежнасці, яны гатовыя яе падтрымліваць. То бок яны занялі адкрыта патрыятычную пазіцыю», — гаворыць Саша.

І дадае, што іхныя праследнікі, наадварот, занялі пазіцыю «дзяржаваразбуральную».

«А я яшчэ памятаю, як следчы, які вёў справу РНЕ, крычаў на чальцоў той арганізацыі: вы куды лезеце, куды вы рыпаецеся, хіба не ведаеце, што тут было Вялікае Княства Літоўскае?!» — згадвае Сяргей.

Цяпер, гавораць хлопцы, сярод праваахоўнікаў істотна пабольшала людзей без каранёў, без усялякай нацыянальнай годнасці, для якіх цэнтр, на які яны пастаянна азіраюцца, знаходзіцца ў Маскве.

Саша з Сяргеем распавялі, што высілкамі людзей, якія лічаць несправядлівымі рэпрэсіі ў дачыненні да патрыётаў, быў зроблены аб'ёмны спіс беларусаў, якія ваююць на баку «народных рэспублік». Праз свае каналы той спіс быў перададзены «куды трэба». Маўляў, ці не лепш звярнуць увагу на вось гэтых людзей? Ці хаця б на гэтых людзей таксама, для балансу?

Атрыманы адказ ад неназванай крыніцы ў праваахоўных органах, сцвярджаючы Саша з Сяргеем, быў шакавальны. Там сказалі, што не маюць патрэбы ў падобным спісе, бо «ўсю патрэбную інфармацыю па дэструктыўных элементах атрымліваюць ад калегаў з ФСБ».

Ці не можа такі стан рэчаў азначаць, задаюцца пытаннем Саша з Сяргеем, што беларускія патрыёты, людзі, гатовыя бараніць сваю краіну ў выпадку імперскай агрэсіі, «зачышчаюцца» па ініцыятыве замежнай спецслужбы?



Фота прадастаўлена фанатамі «Партызана»

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Ганьба нямецкай дыпламатыі

Франк-Вальтэр Штайнмаер, дырэктар МЗС ФРГ, аддаў загад пачаць следства наконт працы пасольства Заходняй Германіі ў Чылі ў 1970-я гады. Следства будзе перш за ўсё тычыцца рэакцыі дыпламатаў на дзейнасць Калоніі Дыгнідад (Dignidad) — нямецкага паселішча ў Чылі, заснаванага ў 1961 годзе экс-выхавальнікам Паўлем Шэферам. Шэфер абяцаў усім, хто пераедзе ў Дыгнідад, калектыўнае жыццё паводле хрысціянскіх законаў, аднак па сутнасці калонія была зачыненай зонай, на якой не дзейнічала юрысдыкцыя чылійскага ўраду. Усім кіраваў сам Шэфер, які эксплуатаваў каланістаў, а ў дадатак неаднаразова гвалціў дзяцей. Існуюць версіі наконт таго, што кіраўніцтва грамады цесна супрацоўнічала з тайнай паліцыяй Пінacheta, якая займалася выкраданнем апазіцыянераў, сляды якіх часта губляліся на тэрыторыі Дыгнідад. Толькі пасля сыходу Пінachэта калонію ліквідавалі, а яе кіраўніка арыштавалі і адправілі ў турму, дзе ў 2006 годзе ён памёр. Між тым, дасюль хапае пытанняў, якія тычацца праекта Шэфера. У тым ліку застаецца незразумелай пасіўнасць пасольства ФРГ, супрацоўнікі якога павінныя былі як мінімум сачыць за Калоніяй Дыгнідад, большасць насельніцтва якой складалі немцы. Ёсць надзея, што следчая камісія, створаная Штайнмаерам, дасць адказы на ўсе пытанні.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ТАДЖЫКІСТАН. Дзень лідара нацыі

Таджыкскаму прэзідэнту Эмамалі Рахмону аказалася мала тытула «Лідар нацыі», захавання права накладаць вета на законы пасля сыходу на пенсію, увядзення ў ВНУ краіны курсу «Рахмоназнаўства». Стала вядома, што групай дэпутатаў мясцовага парламенту, які цалкам залежыць ад Рахмона, падрыхтаваны законапраект пра новае дзяржаўнае свята — Дзень лідара нацыі. Праўда, пакуль канчаткова дата не вызначаная. Святочным днём могуць абвясціць альбо 19 лістапада (у гэты дзень у 1992-м Эмамалі Рахмон быў абраны старшынёй Вярхоўнага Савета Таджыкістана), альбо 6 лістапада, калі Рахмон быў абраны прэзідэнтам. Не выключана, што днём новага свята абвесцяць 5 кастрычніка — дзень нараджэння прэзідэнта. Застаецца дадаць, што такое свята ў краінах СНД на цяперашні дзень існуе толькі ў Казахстане, дзе з 2011 года 1 снежня адзначаецца як Дзень першага прэзідэнта рэспублікі. У гэты дзень у 1991 годзе Назарбаеў стаў прэзідэнтам краіны.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Увядзіце візы для амерыканцаў

Польская прэса пачала кампанію за ўвядзенне Еўрасаюзам візаў для амерыканскіх і канадскіх грамадзян. Гэта, маўляў, будзе годным адказам на ўпартае нежаданне Вашынгтона скасаваць візы для жыхароў некаторых краін Усходняй Еўропы. Сярод гэтых краін — Польшча, Румынія, Харватыя, Балгарыя. Пры гэтым амерыканцам, каб наведаць перазічаныя краіны, ніякіх дазволаў не трэба. Каментатары лічаць, што істэрыка наконт візаў для амерыканцаў патрэбная Варшаве, каб узмацніць свае пазіцыі падчас перамоваў наконт стварэння амерыкана-еўрапейскай зоны вольнага гандлю, якія зараз уваходзяць у асноўную стадыю. Лібералізацыя візавага рэжыму ў такім разе стане неафіцыйным хабарам за тое, што тая ж Польшча падтрымае амерыканскае бачанне будучай зоны вольнага гандлю. Між тым, хапае тых, хто лічыць, што Польшча спазнілася са сваім ультыматумам. Амерыканская міграцыйная палітыка пасля тэрактаў у Парыжы стала больш жорсткай. І наўрад ці ЗША дадуць зялёнае святло бязвізавым турам для ўсходніх еўрапейцаў.

**Паводле польскай прэсы**

### УКРАІНА. Бандэра як вораг незалежнай краіны

Незвычайную рэакцыю выклікала сярод часткі ўкраінскіх гісторыкаў 75-я гадавіна Незалежнай харвацкай дзяржавы (NDH) — марыянетачнага фармавання, якое гітлераўцы стварылі пасля акупацыі Югаславіі 10 красавіка 1941 года. На думку ўкраінскіх гісторыкаў, нешта падобнае магло адбыцца і ва Украіне ўлетку 1941-га пасля прыходу Вермахту. Тое, што на мапе свету не ўзнікла няхай і дэ-факта падкантрольная Берліну, аднак фармальна незалежная ўкраінская дзяржава, вінаваты Сцяпан Бандэра. Менавіта людзі Бандэры не ўтрымаліся і пасля захопу фашыстамі Львова ў чэрвені 1941 года без кансультацый з немцамі абвясцілі праз адпаведны Акт пра адраджэнне ўкраінскай дзяржавы. Хаця тэкст дакументу ўтрымлівае шмат падзяк фюрэру, апошняму такое нахабства не спадабалася. У выніку супрацоўніцтва з украінскімі нацыяналістамі абмежавалася выкарыстаннем іх у якасці дапаможных структур. Правал «харвацкага сцэнару» ва Украіне, як пішуць гісторыкі, на некалькі дзесяцігоддзяў адтэрмінаваў стварэнне незалежнай Украіны. Гэта версія, натуральна, вельмі спрэчная, асабліва з улікам таго, што тая ж NDH за тры гады існавання цалкам дыскрэдытавала сябе этнічнымі чысткамі і масавымі забойствамі, што дазволіла партызанам Ціта знішчыць яе нават без асаблівай падтрымкі Чырвонай Арміі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Брусэль у аблозе




Фота www.independent.co.uk

*Алег НОВІКАЎ*

**Як выглядае Брусэль пасля жахлівых тэрактаў? Які ён — горад, дзе ўзровень тэрарыстычнай пагрозы абазначаны як «высокі»? Вось якім убачыў Брусэль наш журналіст.**

Як вядома, сімвалам Брусэля лічыцца Manneken Pis — хлопчык, які сікае. Аднак хапае тут і іншых цікавых рэчаў. Так, пасля апошніх трагічных падзей бельгійская сталіца папоўнілася новым унікальным прадметам. Напэўна, толькі ў мясцовай падземцы можна пабачыць незвычайны, падобны да градусніка, прыбор, які вымярае ўзровень тэрарыстычнай пагрозы. Стрэлка «градусніка», які размешчаны перад эскалатарам адной са станцый метро, рухаецца ўздоўж гарызантальнай шкалы і паказвае ступень актыўнасці тэрарыстаў.

Няма сумневаў, што «граднік» прыдумалі для таго, каб брусэльцы і госці сталіцы не расслабляліся. На жаль, суб'ектыўна падаецца, што вайна з тэрорам па-бельгійску хутчэй спараджае не ўнутраную мабілізацыю, а пачуццё пабытавага дыскамфорту, фаталізму і абсурду.

Прысмак абсурду выклікае супярэчнасць паміж маштабамі мабілізацыі сілавікоў на фоне ўпартага жадання ўсяго грамадства жыць паводле звыклых старых канонаў, калі індывідуальныя свабоды — недатыкальныя, а якаснае спажыванне — амаль рэлігія.

Чалавек з аўтаматам — цяпер паўсядзённы тыпаж на вуліцах Брусэля. У цэнтры Брусэля на іх натыкаешся амаль у кожным квартале. У дадатак да аўтамату жаўнеры носяць пісталет і часта — чорныя акуляры. Усё гэта надае ім надзвычай ваяўнічы выгляд, аднак першы ж кантакт разбурае гэта ўражанне. «Можна паглядзець вашу торбу, спадар?» — пытаецца аўтаматчык на ўваходзе на платформу адной са станцый. Такім жа тонам у Мінску бамжы просяць пакінуць ім пустую пляшку з-пад піва. Незвычайна? Так. Аднак іншая танальнасць размовы паміж паліцэйскім і грамадзянінам наўрад ці магчымая ў дэмакратычным грамадстве.

Асабліва яскрава гэта можна назіраць у аэрапорце Брусэля. Пасля выбухаў тут пабудаваная новая мадэль кантролю, якая, баюся, хутка будзе выкарыстоўвацца па ўсёй Еўропе. Цяпер, каб трапіць на борт самалёта пасажыру даводзіцца прайсці аж чатыры фільтры праверкі.

Падчас блукання паміж «кантралёрамі» вас, акрамя ўсяго, чакае сустрэча з апошнім словам тэхнічнага прагрэсу ў барацьбе з тэрарыстамі. Пасля праходу праз арку з металадэтэктарам, супрацоўнік аховы праводзіць па далоні рукі нейкім мікрасканерам, які выплёўвае папяровы купон. Купон тут жа ўстаўляюць у падобную на кававарку машыну на суседнім стале, якая выдае вердыкт наконт прысутнасці на вашых далонях слядоў выбуховых рэчываў. «Чысты», — кажа ахоўнік, дазваляючы ісці да наступнага пункту праверкі. Уздоўж усяго маршруту стаяць нейкія сумныя з выгляду асобы, якія павінныя сачыць, каб пасажыр не зрабіў нават паўкроку ўбок.

### Ці можна захаваць цяперашнюю палітычную і эканамічную сістэму ў Еўропе, і пры гэтым перамагчы тэрарызм?

Геній таго, хто прыдумаў апісаную вышэй схему татальнай бяспекі, разбіваецца аб бытавыя сцэны, якія можна пабачыць у аэрапорце. Вось узброены да зубоў жаўнер замест таго, каб сачыць за чаргой, пачынае жартаваць з нейкім турыстам. Пакуль яны пасміхаюцца адзін аднаму, на пропуску ўзнікае затор — нехта згубіў і шукае білет — яго трэба паказаць, каб прайсці далей. Пакуль адзін шукае білет, з'яўляецца новая партыя пасажыраў, ствараючы натоўп — ідэальны аб'ект для атакі экстрэмістаў.

Тое ж самае тычыцца рэстаранаў і кафэ, якія спакойна функцыянуюць у Брусэлі, нягледзячы на тое, што «тэрмометр» у метро паказвае высокую ступень тэрарыстычнай пагрозы. Суседзі за столікамі ў такіх установах прызнаюцца, што баяцца тэрарыстаў, аднак хоць чымсьці ахвяраваць дзеля гэтага не збіраюцца.

Ці можна захаваць цяперашнюю палітычную і эканамічную сістэму ў Еўропе, і пры гэтым перамагчы тэрарызм? Вельмі актуальнае пытанне, сыходзячы з таго, што, магчыма, менавіта існуючая сістэма і спараджае экстрэмісцкія погляды. На мінулым тыдні ў Еўрапейскім парламенце адбылася канферэнцыя дэпутатаў мясцовых саветаў краін ЕС, у тым ліку з удзелам сяброў бельгійскіх муніцыпалітэтаў, дзе зараз праходзяць антытэрарыстычныя акцыі.

Народныя абраннікі кажуць, што маладых мусульман штурхае ў экстрэмізм кантраст іх побыту з тым, што дэманструюць на экранах. Пакінуць катэгорыю сацыяльных маргіналаў яны, аднак, не здольныя з-за кепскай адукацыі і ксенафобіі, якая пануе ў бельгійскім грамадстве. З трыбун канферэнцыі была агучаная прапанова запуску нейкай шырокай праграмы для мусульманскіх кварталаў Бельгіі, якая павінна падцягнуць тут узровень жыцця і інтэграваць тутэйшых мігрантаў у соцыум. Хаця самі дэпутаты прызнаюць, што фінансаваць такі доўгатэрміновы праект ніхто не збіраецца. Лепш ужо аддаць грошы на сілавікоў, якія перад камерамі эфектыўна правяраюць сумкі ў метро.

Магчыма, крыніца экстрэмізму ў іншым. У любым выпадку, Еўропа, каб змагацца з выклікам тэрарызму, павінна сама мяняцца. Калі меркаваць па Брусэлю, еўрапейцы абсалютна на гэта не здольныя. У такой сітуацыі застаецца спадзявацца толькі на супрацоўнікаў спецслужбаў. У прынцыпе, нядаўна бельгійскія праваахоўнікі, быццам, злавілі арганізатараў тэрактаў у аэрапорце, аднак наўрад ці гэта канчатковая перамога. Прынамсі, граднік у метро не змяніў паказальнікі.

# Рэха нідэрландскага рэферэндуму

Алег НОВІКАЎ

**Рэферэндум пра асацыяцыю Украіны з ЕС, які, як вядома, выйгралі еўраскептыкі, значна ўзмацніў унутраны крызіс Еўрасаюза. У палітыкаў ёсць літаральна два месяцы на тое, каб выправіць сітуацыю.**



Фота www.29ru.net

На наступны дзень пасля рэферэндуму ў Нідэрландах мне давялося наведаць Еўрапарламент. Я быў сведкам рэакцыі дэпутатаў ЕС на папярэднія вынікі рэферэндуму. Агульная сцэна ад пабачанага нагадвала мініяцюры паводле анекдотаў пра адну затарможаную нацыю, якой, паводле калектыўных забабонаў, характэрны вельмі павольны ход думак і ўчынкаў. Гэтак жа павольна, падаецца, думаюць і еўрадэпутаты. Толькі пасля заканчэння плебісцыту ў Нідэрландах да іх нарэшце дайшло, якой вялікай была стаўка.

Нават дэпутаты ў фракцыі «Еўрапейскіх левых», куды ўваходзіць галандская Сацпартыя — адзін з ініцыятараў рэферэндуму, былі агаломшаныя. «Мы, натуральна, супраць цяперашняга варыянту дамовы пра асацыяцыю Украіна — ЕС, паколькі яна нішчыць украінскую індустрыю, аднак не хацелі такіх наступстваў», — прызнаўся адзін з дэпутатаў ад нямецкіх «Die Linke».

Па яго словах, нават прыхільнікі Украіны ў Еўрапарламенце не вельмі напружваліся наконт наступстваў плебісцыту, які часта нават успрымалі як своеасаблівы жарт (нагадаем, што ідэю рэферэндуму высунула рэдакцыя аднаго з сатырычных сайтаў). У крайнім выпадку, усе спадзяваліся на нізкую яўку выбаршчыкаў або на невялікі працэнт галасоў, пададзеных супраць асацыяцыі з Украінай.

Нават тое, што праціўнікі асацыяцыі перамаглі, таксама не было нагодай для смутку, з улікам кансультатыўнага характару галасавання. Па сутнасці, усе разумелі, што рэферэндум — гэта магчымасць для галандцаў выказаць сваё незадаволенне Брусэлю.

Але сапраўдная трагедыя заключаецца ў палітычным календары 2016-га. Напрыканцы чэрвеня ў Вялікабрытаніі таксама адбудзецца рэферэндум, на якім брытанцы вызначацца, ці патрэбна ім сяброўства ў еўраклубе. Вынікі галасавання ў Нідэрландах сталі моцным маральным допінгам для еўраскептыкаў з Альбіёну, якія, паводле апытанняў, маюць шансы на перамогу. «Тое, што галандскі ўрад праігнараваў волю народу — лепшы сігнал для таго, каб брытанскі народ зрабіў гістарычны выбар, заявіўшы: еўрапейскі палітычны клас не здольны гуляць карэктна. Таму прыйшоў час пакінуць ЕС», — піша блізкае да еўраскептыкаў брытанскае выданне «Express».

**Кепскія навіны з Галандыі ўзмацнілі рост апатыі сярод украінскага дэмакратычнага электарату**

Калі будзе рэалізаваны такі сцэнар, Еўрасаюз пачне моцна ліхаманіць. «Становічае галасаванне пра выхад Вялікабрытаніі з ЕС прывядзе да росту сепаратысцкіх настрояў у Каталоніі, некаторыя краіны Паўночнай Еўропы захочуць выйсці з зоны еўра, узмоцняцца цэнтрабежныя сілы ў Грэцыі. Гэта можа стаць пачаткам канца Еўрапейскага Саюза», — прагназуе Bloomberg.

Брытанію, праўда, таксама чакаюць вясёлыя часы. Сацыёлагі фіксуюць высокі ўзровень падтрымкі еўраінтэграцыі ў Шатландыі, якая можа запатрабаваць для сябе права застацца ў ЕС у выпадку, калі Англія прагаласуе за выхад. У Дубліне, як распавяла адна з памочнікаў дэпутата ад партыі «Шын Фейн», у некаторых колах папулярна ідэя прапанаваць прытулак для Паўночнай Ірландыі, калі ў чэрвені большасць мясцовых прагаласуе за Еўропу.

Адгукнецца рэферэндум і ў Нідэрландах. Тут поспех рэферэндуму паскарае крах кіруючага ў Нідэрландах кааліцыйнага правацэнтрысцкага кабінета Марка Рутэ, які заклікаў суайчыннікаў галасаваць «за». Адказаць на пытанне, каму прынясуць перамогу наступныя выбары, няцяжка. Паводле сацапытанняў, гэта можа быць правая папуліцкая «Партыя за свабоду» пад кіраўніцтвам адыёзнага Герта Вілдэрса. «Партыя за свабоду» была асноўнай рухаючай сілай праціўнікаў Украіны на гэтым рэферэндуме, і, калі б выбары праходзілі цяпер, павялічыла б сваё прадстаўніцтва ў парламенце як мінімум удвая ды мела б уплыў на фармаванне ўраду.

Трэба ўзгадаць і пра тое, як успрынялі рэферэндум ва Украіне. Тут кепскія навіны з Галандыі ўзмацнілі рост апатыі сярод дэмакратычнага электарату, якому ўрад Яцанюка дзеля накруткі рэйтынгаў абяцаў сяброўства ў ЕС ледзь не заўтра. Купоны на крызісе мары пра Еўропу стрыгуць як прарасійскія партыі, так і нацыянал-кансерватары, якія прапануюць украінцам замест разбэшчанай ды абкуранай «гейропы» будаваць нешта сваё.

Каб прытармазіць цэнтрабежныя тэндэнцыі, сёння ў ЕС прапаноўваюцца самыя неверагодныя праджэкты. Далей за ўсіх пайшла еўрадэпутат ад «Зялёных» Рэбека Хармс, якая ўвогуле прапануе забараніць рэферэндумы ў краінах ЕС, якія тычацца агульнаеўрапейскай палітыкі. «Рэферэндумы — гэта небяспечная цацка д'ябла», — кажа палітык. Яе ўскосна падтрымліваюць некаторыя нямецкія эсдэкі. На думку аднаго з іх, «галасаванне наконт лёсу іншых краін спрыяе росту нацыяналізму». Праўда, нават забароны рэферэндумаў ужо не дазволяць адкруціць час назад і змяніць вынікі галандскага плебісцыту.

Што далей? У калідорах Еўрапарламента распавядалі, што з самага ранку 7 красавіка спікер Марцін Шульц сабраў у экстраным парадку лідараў фракцый, каб абмеркаваць сітуацыю. Праводзіць пасяджэнні і Еўракамісія. Каб выбіць глебу з-пад ног еўраскептыкаў напярэдадні плебісцыту ў Вялікабрытаніі, прапануецца зрабіць афіцыйную заяву кіраўніцтва Еўрасаюза пра мараторый на пашырэнне на Усход. Зараз ідуць кансультацыі. Афіцыйна, праўда, усе адмаўляюцца прызнаваць такі план, у тым ліку таму, што на носе парламенцкія выбары ў Сербіі, дзе праеўрапейскім сілам важна салідарнасць Брусэля.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Уладзімір Гройсман



Новы прэм'ер Украіны стаў героем ізраільскай прэсы праз незвычайны аспект яго біяграфіі. Як адзначаюць ізраільскія выданні, прэм'ерства Гройсмана — першы ў гісторыі выпадак, калі ўкраінскі ўрад узначаліць этнічны габрэй. Пікантнасць сітуацыі надае тое, што антысемітызм з'яўляецца часткай украінскай палітычнай культуры. На думку ізраільскай прэсы, сам факт прызначэння 38-гадовага Гройсмана — вельмі пазітыўны сігнал для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, дзе ксенафобія і антысемітызм дастаткова распаўсюджаныя. Цікава, што ва Украіне тэма нацыянальнага паходжання Гройсмана мала каго цікавіць. Тут часцей пішуць, што з прыходам Гройсмана ўрад становіцца падкантрольным так званаму «вінніцкаму клану» (Вінніца — рэгіён, адкуль паходзяць новы прэм'ер і прэзідэнт). Засілле выхадцаў з Вінніцы ў Кабіміне ўкраінцы ўспрымаюць адмоўна, бо Майдан змагаўся з данецкім кланам Януковіча, які фактычна кантраляваў усе галіны ўлады. Увогуле, прагнозы наконт прэм'ерства Гройсмана не вельмі аптымістычныя, таму што яго ўрад фармаваўся зачынена, на аснове пошуку кансенсусу паміж Парашэнкам і групамі алігархаў.

### Кім Чэн Ын



Калі верыць прэсе Паўднёвай Карэі, рэжым у Пхеньяне атрымаў каласальны ўдар пасля таго, як 11 красавіка ў Сеуле былі затрыманы два вядучыя рэзідэнты паўночна-карэйскай разведкі. Гаворка пра палкоўніка спецслужбаў і дыпламата, які працаваў у адной з афрыканскіх краінаў. Паводле інфармацыі з Сеулу, адзін з іх трапіў на Поўдзень яшчэ ў 1953 годзе, калі Пхеньян дазволіў 30 тысячам суайчыннікам пакінуць краіну. Другі агент працаваў пад прыкрыццём легенды пра дысідэнта, які, быццам, быў вымушаны збегчы з КНДР. У паслужным спісе шпіёнаў цэлы набор «подзвігаў», аж да патаплення вайсковага карабля Паўднёвай Карэі. Між тым, пераможныя рэляцыі спецслужбаў нівелюе скандал з 12 грамадзянамі КНДР, якія цяпер праз Кітай спрабуюць збегчы ў Паўднёвую Карэю. У Сеуле баяцца, што сярод перабежчыкаў таксама могуць апынуцца агенты. Прычым гэтая партыя перабежчыкаў можа стацца толькі пробным шарам для перапраўкі на Поўдзень цэлай арміі агентаў. Справа ў тым, што Пекін і Пхеньян дамовіліся пра адкрыццё ў КНР сеткі рэстаранаў, дзе будуць працаваць каля 50 тысяч паўночнакарэйскіх грамадзян. Кожны з іх можа скарыстацца сітуацыяй і збегчы ў Паўднёвую Карэю, дзе ім як палітуцекачам аўтаматычна надаецца прытулак.

### Нурсулан Назарбаеў



Прэзідэнт Казахстана вельмі зацікавіў заходнюю грамадскасць пасля таго, як, будучы ў Нью-Ёрку, вырашыў павячэраць у мясцовым рэстаране. У прэсе цытуюць ананімнага сведку вячэры, па словах якога, на той момант у рэстаране знаходзіліся восем чалавек з сакрэтнай службы ЗША, а таксама 15–20 чалавек з асабістай аховы казахскага прэзідэнта. Сама вячэра пачалася з таго, што 75-гадовы Назарбаеў катэгарычна запатрабаваў ад дырэкцыі ўстановы, каб прысутных афіцыянтаў замянілі яго асабістыя лёкаі, посуд прадэзынфікавалі гарэлкай, а кожны кавалачак ежы праверылі на наяўнасць атруты. Толькі пасля гэтага госць прыступіў да вячэры. Прэса і інтэрнэт разыходзяцца ў ацэнках такіх паводзін Елбасы. Але адна з версій вартая таго, каб яе агучыць. Паводле яе аўтараў, Назарбаеў баіцца, што яго могуць атруціць агенты пуцінскага ФСБ, якія, як сведчыць выпадак Ліцвіненкі, выкарыстоўваюць для палітычных забойстваў рэстараны. Застаецца дадаць, што шэраг СМІ, каментуючы паход Назарбаева ў рэстаран, заклікаюць вядомага брытанскага коміка Сашу Коэна зняць другую серыю пра прыгоды Барата — казахстанскага журналіста, які падарожнічае па Захадзе. На іх думку, сцэна назарбаеўскай вячэры вартая таго, каб увайсці ў фільм, — яна б вельмі развесяліла гледачоў.

# Знявечаныя лёсы жыхароў Брэста

Прапануем трэці нарыс, напісаны на аснове сабраных у сярэдзіне 1990-х гадоў архіўных матэрыялаў. Гэтыя архівы зараз зачыненыя. У свой час аўтара папярэдзілі, што матэрыялы нельга выкарыстоўваць у дакументальных творах, пакуль не пройдзе тэрмін захоўвання тайны. Гэты тэрмін скончыўся. І мы знаёмім з нарысамі нашых чытачоў. Першы і другі нарысы можна прачытаць у №№ 11, 13.




## Няўмелыя змагары

Зінаіда ДУДЗЮК

**Асобныя маладыя палякі мэтанакіравана гуртаваліся для барацьбы за вызваленне Польшчы, збіралі ў Брэсцкай крэпасці зброю, якая засталася пасля супраціву жаўнераў немцам у верасні 1939 года. Яны ніяк не маглі сцяміць, што цяпер жывуць у іншай краіне. Гэтая памылка свядомасці шмат каму каштавала волі, а некаторым — жыцця.**

23 мая 1940 года ўпаўнаважаны Галоўнага дарожна-транспартнага аддзела НКУС Трасцянецкі затрымаў вучня восьмага класа Брэсцкай школы №21 Ігнута Яўгена Францавіча 1922 года нараджэння, паляка, які жыў у Брэсце, на вуліцы Камсамольскай, дом 8, кватэра 10. Яўгена затрымалі за тое, што ён з'яўляецца ўдзельнікам контррэвалюцыйнай паўстанцкай нацыяналістычнай арганізацыі. Хлопца абшукалі і знайшлі пры ім пашпарт серыі І-НУ №516799, студэнцкае пасведчанне № А406, савецкія грошы — 7 рублёў і 70 капеек, адзін злоты, песні, напісаныя на польскай мове, і фотаздымкі родных. Высветлілі, што арыштаваны паходзіць з сям'і чыноўніка Ігнуты Франца Аляксандравіча, якому 52 гады, да 1935 года ён служыў у казённай палаце, пасля выйшаў на пенсію. Маці Яўгена — Ядвіга Іванаўна (45 гадоў) — хатняя гаспадыня, таксама на пенсіі, а да 1931 года выкладала матэматыку і нямецкую мову ў польскай школе.

Пачаліся допыты. Арыштаваны прызнаўся, што мае «Браўнінг» без магазіна і патронаў, які захоўвае за сметнікам дома, дзе жыве. Зброю Яўген купіў у знаёмага Рамана Навакоўскага за 25 злотых. Раніцай 14 мая бацька забраў у сына рэвальвер і чатырнаццаць патронаў і сказаў, што выкінуў у прыбіральню. Для Ігнута-малодшага гэта была рэч такая каштоўная, што ён не пагрэбаваў, знайшоў рэвальвер у прыбіральні і схаваў на сметніку, а пасля на сметніку яго знайшлі нкусаўцы, што стала важкай падставай для далейшай працы з юнаком. Хлопец вымушаны быў расказваць пра бацькоў, выкладчыкаў, сяброў, аднакласнікаў і проста знаёмых: «Мае бацькі — вялікія патрыёты, — апавядаў юнак. — У нашай сям'і часта казалі пра тое, што савецкая ўлада тут часова, у недалёкай будучыні Польшча вызваліцца з дапамогай Англіі і Францыі, таму я ўступіў у паўстанцкую моладзевую арганізацыю «Полымя».

Давялося выдаць сяброў: «Пасля ўсталявання Савецкай улады на тэрыторыі былой Польшчы са мною зблізіліся Ляшнеўскі Міраслаў, Лісецкі Юльян, Крэнц Ян і сталі запрашаць мяне да сябе на кватэры. У лістападзе 1938 года ў Ляшнеўскага я застаў 5–6 чалавек студэнтаў Брэсцкага чыгуначнага тэхнікума: Снятынскага Януша, Гурскага Юзафа, Крэнца Яна, Чарнецкага і іншых. Ляшнеўскі сказаў, што арганізацыя пабудаваная па прынцыпе «дзясяткі», ён з'яўляецца кіраўніком, што арганізацыя мае зброю і сувязі з віднымі дзеячамі, але з кім канкрэтна, не назваў. Мэта арганізацыі: аб'яднаць палякаў, у асноўным моладзь, узброіць для таго, каб, калі Англія і Францыя разаб'юць Германію і будуць весці ваенныя дзеянні супраць Чырвонай Арміі, арганізаваць паўстанне ў тыле».

Паколькі звестак даваў Яўген Ігнут мала, дык яго пачалі ціснуць, катаваць, у выніку ўжо 2 чэрвеня ён апынуўся ў Баранавіцкай бальніцы на лячэнні. Праз месяц допыты аднавіліся. 10 ліпеня 1940 года ў 22.00 быў распачаты чарговы пратакол, у якім Яўген Ігнут паведамляў, што паўстанцкую арганізацыю, у якую ён уваходзіў, спачатку ўзначальваў Главацкі Лявон Іванавіч, падхарунжы польскага войска, які браў удзел у ваенных дзеяннях 1939 года, у кастрычніку таго ж года ён з'явіўся ў Брэсце і працаваў афіцыянтам у рэстаране бацькі, пасля ўцёк на тэрыторыю Польшчы, акупаваную немцамі. У падпольнай арганізацыі было 15 дзясяткаў, гэта значыць, 150 чалавек. Пасля таго, як Главацкі пайшоў за Буг, арганізацыю ўзначаліў Чарнецкі. Падпольшчыкі мелі таемную радыёстанцыю на кватэры Казлоўскага, які сам сабраў радыёпрыёмнік, і жыў паблізу Дома Чырвонай Арміі, дзе раней размяшчалася ваяводства. Таемная друкарня (друкарка з польскім шрыфтам) знаходзілася ў Ляшнеўскага... «Калі даведаўся, што пачаліся арышты, перастаў сустракацца з «дзясяткай», — прызнаўся юнак. — Выпадкова сустрэўся з Бржазоўскім, пайшлі ў парк, ён пачаў пакепліваць з мне, што я баязлівец. Пахваліў сваю «дзясятку», у якой добра пастаўлена канспірацыя, я пагадзіўся ўступіць у ягоную «дзясятку» пры ўмове, што нікому не скажа». Варта адзначыць, што гарадскі парк быў улюбёным месцам, дзе збіралася моладзь горада.

> Органы НКУС-НКДБ аказаліся добра падрыхтаванымі да барацьбы з падпольнымі структурамі. Асабліва хутка правальваліся моладзевыя арганізацыі

Адначасова пачаліся арышты знаёмых Яўгена Ігнута. Самым першым апынуўся пад вартай у турме студэнт чыгуначнага тэхнікума Чэслаў Бржазоўскі, 1922 года нараджэння. Хоць ягоная сям'я была простая, бацька Віктар працаваў насільшчыкам, маці Браніслава — хатняя гаспадыня, пятнаццацігадовы брат Антон падпрацоўваў на розных работах, трынаццацігадовы Тадэвуш вучыўся ў школе, Чэслаў на допытах паводзіў сябе як вялікі патрыёт Польшчы, расказаў, што на вечарыне пілі за перамогу Англіі і Францыі над Германіяй і за хуткае вызваленне Польшчы. Выказваў крамольную, у разуменні следчых, думку: каб Фінляндыя перамагла ў вайне СССР, дык палякам можна было б выступіць супраць Саветаў. Тлумачыў нездаволенасць насельніцтва новай уладай тым, што раней вольна можна было ўсё купіць, а цяпер усталяваўся суцэльны дэфіцыт. І зноў цэлым спісам пайшлі на допыт студэнты чыгуначнага тэхнікума: Стэфанюк Чэслаў, Рыбак Тадэвуш, Канвішар Казімір, Сабчак Генрых, Капала Лех, Скаружынскі Казімір, Віткоўскі Богуміл, Мушынскі Яўген і іншыя — усяго каля двух дзясяткаў чалавек. Услед за імі аказаліся пад следствам іхнія знаёмыя дзяўчынкі: Ядвіга Мянжынская, Іда Календа, Ядвіга Ількоўская, Ірэна Ткачык і іншыя.

З дакументаў вядома, што Яўген Ігнут адбываў пакаранне ў Варкутлазе. 10.09.1941 года быў вызвалены па амністыі, згодна з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 12.08.1941 года. Тадэвуш Рыбак спачатку ўтрымліваўся ў Брэсцкай турме, а пасля этапам накіраваны на станцыю Енісей Краснаярскага краю ў распараджэнне Нарыльлагера НКУС 14.08.1940. Там жа апынуўся Лех Капала. Хлопцаў размяркоўвалі па розных лагерах, мусіць, каб яшчэ больш абцяжарыць іхняе існаванне ў турме.

У артыкуле гісторыка Станіслава Сільвановіча (часопіс «ARCHE ПАЧАТАК» 5/2015) можна знайсці тлумачэнне частых правалаў і вялікіх страт польскага падполля: «Па прычыне сваёй упэўненасці ў непрацягласці патрэбы знаходжання ў падполлі многія арганізацыі не звярталі сур'ёзнай увагі на патрабаванні канспірацыі і сталі лёгкай здабычай савецкіх органаў бяспекі. Кепскую службу шмат якім удзельнікам падполля адыграла і недаацэнка праціўніка, які разглядаўся як адсталы і ні на што не здольны. На самай жа справе органы НКУС-НКДБ аказаліся добра падрыхтаванымі да барацьбы з падпольнымі структурамі і на працягу 1939–1941 гадоў нанеслі серыю ўдараў... Асабліва хутка правальваліся моладзевыя арганізацыі. Разглядаючы вайну і падпольную дзейнасць як рамантычную прыгоду і не маючы вопыту канспіратыўнай працы, маладыя людзі хутка траплялі ў рукі праціўніка і не вытрымлівалі следства, сутыкнуўшыся з дасканалымі метадамі НКУС-НКДБ».

Колькі было тых гаротнікаў, што прайшлі пакуты, прыніжэнне і знішчэнне ў савецкіх турмах? Мусіць, ніхто дакладна не ведае. Яны сышлі, сплылі з вірлівым плынню часу, і толькі ў нейкім таемным архіве іншы раз можна сустрэць звесткі пра іх.

Я пашукала ў тэлефонным даведніку Брэста такія ж прозвішчы, як у палякаў, названых у артыкуле, і знайшла некалькі: Лісецкі, Рыбак, Гурскі, Крэнц, Шчука, Пякарскі, Віткоўскі, Мушынскі. Магчыма, гэта выжылі тыя самыя патрыёты, а мо гэта іхнія родзічы, нашчадкі ці выпадковыя людзі з такімі ж прозвішчамі. Вельмі хацелася б больш даведацца пра герояў артыкула. Мы можам толькі здагадвацца, які шлях абралі сабе тыя, што ацалелі ў сталінскіх лагерах: нехта трапіў у войска Андэрса, нехта пайшоў да Берлінга, асобных маглі перакінуць з Вялікай зямлі ў беларускія партызанскія атрады. Ім належала прайсці дарогамі вайны. Хто выжыў, хто загінуў — невядома.

Хачу звярнуцца да тых палякаў, які перажылі рэпрэсіі, і папрасіць іх расказаць пра свае пакуты і перамогу над неміласэрным лёсам, пра сяброў і аднадумцаў. Можа, родзічы, суседзі ці проста знаёмыя захочуць падзяліцца ўспамінамі. Гэта важна ведаць нам, сучаснікам, каб нашы ўнукі і праўнукі ніколі не перажылі ў будучыні тое, што выпала на долю старэйшага пакалення.

# Асоба, якая адхіляла кампрамісы



Генадзь ШЭРШАНЬ

**У красавіку спаўняецца 114 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага хірурга Івана Стальмашонка. Дата не круглая. Можна было б і «пачакаць» год з гэтым тэкстам. Але не ўпэўнены, што да таго часу дажыву.**

Іван Майсеевіч Стальмашонак (1902–1976) узначальваў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1953–1961). Упершыню ўбачыў яго пасля заканчэння іспытаў у інстытут у час сумоўя. У строгім цёмна-сінім гарнітуры з такім жа строгім, але не суровым ці пахмурным позіркам праз акуляры, ён перш за ўсё ціха спытаў у мяне: «Чым шэршань адрозніваецца ад пчалы?»...

1 верасня дэканат інстытута



**Іван Стальмашонак**

запрасіў нас, навапаспечаных студэнтаў, на сустрэчу ў аўдыторыю № 1, самую вялікую ў інстытуце. На сценах віселі чатыры велізарныя партрэты. Выявы на трох з іх — заснавальнікаў нервізму І. М. Сечанава і І. П. Паўлава ды лейб-медыка тэрапеўта С. П. Боткіна, — мне былі добра знаёмыя. Аднак вызначыць выяву чалавека сярэдніх гадоў з вусамі і ў берэце на чацвёртым партрэце я не змог. Як і ўсе мае суседзі. Пасля выступлення выкладчыкаў мы і спыталі аб тым. «А гэта, — сказаў Іван Майсеевіч, — Францыск Скарына — наш першы доктар медыцыны». Пагаворвалі, што тыя партрэты маляваў сын дырэктара (так у той час называлася пасада рэктара) — будучы Народны мастак Беларусі.

Сярод ВНУ Мінска наш інстытут вызначаўся сваёй грамадска-спартыўна-культурніцкай дзейнасцю. Прынамсі, заўсёды, па гэтых паказчыках займаў прызавыя месцы.

Дырэктара даводзілася бачыць толькі некалькі разоў на год, звычайна на агульнаінстытуцкіх сходах. Калі ж перайшлі на пяты курс і пачалі наведваць кафедру і клініку шпітальнай хірургіі, якімі ён кіраваў, сустракаліся часцей. Тут нас напаткалі сумненні ва ўсёмагутнасці хірургіі, нават расчараванні ў медыцыне. На кафедры мы павінны былі спасцігаць вяршыні дыягностыкі і лячэння хірургічных хваробаў, а нам распавядалі пра памылкі і ўскладненні, якія развіваюцца ў час падобных дзеянняў...

Апошні год вучобы быў адметны вырашэннем штодзённых бытавых праблем. Нас, студэнтаў, больш цікавілі ўпартыя пагалоскі, што і мы, як выпускнікі ўніверсітэта, атрымаем адпаведны значок — дэманстратыўнае сведчанне маладога спецыяліста. Але наш значок будзе «профільны», адпавядацьме набытай прафесіі. І нарэшце, пасля здачы дзяржаўных экзаменаў, медыкі атрымалі «свой» значок. Такі ж, як і ўніверсітэцкі (сіні ромб у белай акантоўцы з рэльефным гербам СССР у цэнтры), толькі з дадаткам эмблемы медыцыны і абрэвіятуры назвы нашага інстытута — «МГМИ» (агульнасаюзныя — «ананімныя» — «ромбы» давялося ўбачыць на вопратках выпускнікоў медычных ВНУ гады праз два пасля). Значок каштаваў кожнаму з нас 35 рублёў. Тады гэта былі немалыя грошы, калі ўлічыць, што стыпендыя не перавышала 220 рублёў. Але, наколькі мне вядома, ніводзін з 613 выпускнікоў не адмовіўся ад падобнай адзнакі.

Ужо на Слаўгарадчыне, дзе пачаў працаваць па размеркаванні, я даведаўся, што Стальмашонак пакінуў пасаду дырэктара інстытута. Праз тры гады, пасля майго вяртання дамоў, мае сакурснікі, якіх да таго часу ў сталіцы сабралася больш за палову выпуску, даводзілі мне, што звальненне дырэктара было абумоўлена не столькі «путчам» супрацоўнікаў інстытута, колькі абурэннем Масквы «мястэчковым самавольствам» Івана Майсеевіча, які аздобіў наш «ромб» абрэвіятурай інстытута.

Іван Майсеевіч прыйшоў у медыцыну па камсамольскай пуцёўцы ў 1922 годзе. Хутка набыў аўтарытэт добрага хірурга, а пасля атрымання партбілета ў 1929 годзе пачаў займаць кіруючыя пасады ў розных медустановах: дэкан факультэта, намеснік дырэктара (завуч) Беларускага (Мінскага) медінстытута, загадчык аддзела аховы здароўя Мінска, начальнік упраўлення Наркамата аховы здароўя БССР (двойчы — да і пасля вайны), дацэнт кафедры медінстытута і адначасова дырэктар БелНДІ пералівання крыві, галоўны хірург эвакуацыйных шпіталяў Чувашыі і Кіраўскай вобласці, нарэшце, загадчык кафедры шпітальнай хірургіі Мінскага медінстытута і адначасова яго дырэктар.

Калі я працаваў ужо ў рэдакцыі медлітаратуры выдавецтва «Беларусь», у аднаго наведвальніка — выкладчыка нашага інстытута — спытаў пра звычайнае, амаль дзяжурнае: «Ну што там новага ў альмаматэр?» А ў адказ пачуў нечаканае: «Стальмашонак кватэру атрымаў у шматпавярховым доме, дагэтуль ён жыў у прыватным сектары. Казаў, што не можа ніяк прызвычаіцца да новага месца. Хваравіта ўспрымае розныя гукі, што даносяцца з суседніх кватэр — усялякія шумы, свідраванні, пілаванні, стукі. Падумвае куды-небудзь з'ехаць». Праз нейкі час даведваюся: дырэктар сапраўды з'ехаў у Асіповічы і там жыве.

Ён з'явіўся ў нашай рэдакцыі ў канцы 1970-х, калі ўжо быў персанальным пенсіянерам. Прынёс рукапіс сваіх «Очерков развития хирургии в Белоруссии». Вонкава Іван Майсеевіч амаль не змяніўся. Як і ў першую нашу з ім сустрэчу, быў апрануты ў цёмна-сіні гарнітур, і яго акуляры, як быццам, былі тымі ж самымі. Толькі ў валасах — пасмы сівізны. Гаварыў ён па-ранейшаму стрымана і ціха. Мяне не пазнаў...

У той час у выдавецтвах была тэндэнцыя з мэтай павышэння «аб'ектыўнасці» ацэнкі твора і якасці публікацый папярэдне накіроўваць рукапісы на рэцэнзаванне. Калі аўтарамі былі вядомыя і паважаныя ў Беларусі людзі, іх творы амаль заўсёды пасылалі на знешняе рэцэнзаванне ва ўстановы саюзнага падпарадкавання. Для аўтараў гэта ніколі не было сакрэтам. Кандыдатуры будучых рэцэнзентаў з імі ўзгаднялі. Іван Майсеевіч не быў выключэннем. Загадчык рэдакцыі назваў яму некалькі імёнаў магчымых рэцэнзентаў, з якіх прапанаваў прафесара Б.Д. Пятрова з Масквы («видный советский историк медицины», як пра яго пазначана ў «Вялікай медыцынскай энцыклапедыі»). Дырэктар з гэтай кандыдатурай пагадзіўся, прынамсі, не пярэчыў. Але...

Праз нейкі час Б. Д. Пятроў прыслаў у рэдакцыю рэцэнзію, з якой дырэктар не згаджаўся катэгарычна. Мне не вядома, якія хібы ў рукапісе знайшоў Б.Д. Пятроў, каб паставіцца да яго так нядобразычліва. Ужо былі выпадкі, калі маскоўскія рэцэнзенты са сваёй вялікадзяржаўнай званіцы спрабавалі вучыць «перыферыйных» прапісным ісцінам, па-хамску ставячыся да аўтараў, зневажаючы іх. Ці мог дазволіць сабе падобнае Б. Д. Пятроў, былы апаратчык ЦК КПСС? Наўрад ці. Аднак факт застаецца фактам: ён не палічыў патрэбным даць згоду на публікацыю манаграфіі.

У такіх выпадках лёс падобных твораў вырашаўся на пасяджэннях Грамадскага рэдакцыйнага савета. На чарговым пасяджэнні большыня сімпатызавала Івану Майсеевічу. Але адзін з сябраў паведаміў сходу, што аўтар рукапісу (І.М. Стальмашонак) не прыняў ніводнай заўвагі рэцэнзента. У пакоі павісла напружаная цішыня. Нарэшце намеснік старшыні рэдсавета прафесар В.А. Маркс, вядомы ў медыцынскім свеце сваёй бесканфліктнасцю і міралюбствам, перарваў гэтае цяжкае маўчанне:

— Іван Майсеевіч, ну няўжо ў аніводнай з заўваг Пятрова няма нічога рацыянальнага, што варта было б улічыць? — спытаў ён мяккім тонам.

— Няма, — ціха і абыякава адказаў той.

— Але чаму?

— Таму што ён — нягоднік... — тым жа ціхім голасам адказаў дырэктар і так паглядзеў на Маркса, што, падалося, яшчэ момант — і праз шкельцы акуляраў прыб'е да сценкі не вінаватага ў скандале Васіля Аскаравіча.

Пасля такога дарэмна было шукаць нейкія кампрамісы. Пасяджэнне рэдсавета закончылася нічым.

Вось тады мне прыпомніліся плёткі наконт доктарскай дысертацыі дырэктара, якія чуў на першым курсе вучобы. Вырашыў высветліць абставіны той абароны, пасядзеў у бібліятэцы і вызначыў, што тэма той дысертацыі тычылася... траўматалогіі. Што прымусіла яго, прызнанага ўжо спецыяліста ў галіне хірургіі органаў сістэмы стрававання, перакваліфікавацца? Гэта, напэўна, назаўсёды застанецца таямніцай. Аднак вырашэннем праблемаў лячэння пераломаў касцей І. М. Стальмашонак пачаў займацца яшчэ да вайны і працягнуў свае доследы пасля яе, прысвяціўшы гэтаму 15 гадоў лекарскай працы. Адпаведна, набыў грунтоўны досвед, сабраў значны даследчыцкі матэрыял, на які абапіраліся ягоныя высновы. Высновы не толькі абгрунтаваныя, але і, як кажуць, выпакутаваныя. Пэўна, у час абароны апаненты не знайшлі з ім паразумення і — «трапіла каса на камень».





**Значок маладога спецыяліста — ромб з эмблемай медыцыны і абрэвіятурай медінстытута — «МГМИ»**

На тым справа не закончылася. У 1952 годзе Іван Майсеевіч выдаў яўна дысертацыйнага складу манаграфію «Оперативное лечение закрытых и открытых переломов» з прадмовай прафесара М. М. Прыорава, старшыні Усесаюзнага навуковага таварыства артапедаў-траўматолагаў, члена-карэспандэнта АМН СССР. Гэтая прадмова была своеасаблівым «адказам маім апанентам» і сведчаннем «афіцыйнага» прызнання слушнасці ягоных высноў. А затым, пасля 1952 года, Стальмашонак нібыта «забыў», што траўматалогія існуе наогул.

Праз паўгода пасля згаданага рэдсавета «Очерки...» дырэктара ўсё ж пабачылі свет у выглядзе кнігі ў бумвінілавай вокладцы. Напэўна, у яе выданні станоўчую ролю адыгралі даўнія сувязі аўтара з уладнымі асобамі, былымі пацыентамі.

Больш Івана Майсеевіча мне ўжо не даводзілася бачыць. Чуў некалькі выступленняў па радыё ягонага сына, Уладзіміра Іванавіча Стальмашонка, Народнага мастака Беларусі, на дыхтоўнай беларускай мове. У ягонай сям'і непрымірымая барацьбіта за ісціну мова не магла быць чужой.

Іван Майсеевіч любіў свой край, сваю старонку, дзе нарадзіўся і вырас. Ён любіў і свой інстытут, выхаванцам якога быў і якім кіраваў. Таму і ставіўся да сваіх спраў і абавязкаў шчыра, як падказвалі сумленне і перакананні.



Редакция газеты
„Советский медик"
Орган партийного комитета, дирекции, комитета ЛКСМБ, профкома и месткома Минского государственного медицинского института
УДОСТОВЕРЕНИЕ № 5
Предъявитель сего Шершень Геннадий Александрович
является художником редакции газеты «Советский медик».
Действительно по 1 сентября 1957 г.
Ответственный редактор

Срок удостоверения продлен по ____ 195 г.
Ответственный редактор ____
Предъявитель этого удостоверения имеет право:
1. Присутствовать на всех общественных мероприятиях, проводимых в институте и клиниках.
2. Присутствовать на лекциях, практических занятиях, экзаменах, производственных и научных совещаниях кафедр, деканатов.
3. Собирать информацию о событиях на кафедрах, в клиниках и студенческих общежитиях.
4. Производить фотосъемку для газеты.
Зак. 328

**Рэдакцыйнае пасведчанне газеты «Советский медик» Генадзя Шэршаня**

# Адключыць ваду, а на пенсію — з 80 гадоў

**Гэты ліст 92-гадовы дзед Яўсей з вёскі Стары Двор перадаў праз нашага журналіста, каб мы перадалі яго кіраўніку Беларусі. Дзядуля прапануе арыгінальныя шляхі вырашэння дзяржаўных праблем. І хаця ёсць рызыка, што менавіта да гэтага голасу народу ўлады могуць і прыслухацца, мы ўсё ж вырашылі надрукаваць ліст з невялічкімі скарачэннямі. Бо за арыгінальнымі прапановамі дзеда Яўсея прасочваецца цяжкае жыццё беларускай вёскі ў XXI стагоддзі.**

Паважаны таварыш прэзідэнт!

Я пражыў шмат гадоў, перажыў некалькі рэжымаў і акупацый і жыву, дзякаваць Богу, далей. Але ніколі ў жыцці не пісаў лістоў начальству, а сёння вырашыў напісаць асабіста вам, таварыш прэзідэнт. Хоць не вельмі я адукаваны чалавек, скончыў некалі ў роднай вёсцы толькі 7 класаў польскай школы, але вырашыў напісаць так, як атрымаецца, таму што гляджу тэлевізар і бачу ў ім, і чую ў ім адны непрыемнасці і праблемы. І з усімі гэтымі праблемамі вам трэба разбірацца, і ўсё гэта на вашы плечы. Але паспрабуй разабрацца, хаця вопыт прэзідэнцтва ў вас ёсць, вы ж ужо 22 гады прэзідэнт, як быццам бы ім нарадзіліся. Праўда, я ў калгасе пастухом адпрацаваў 37 гадоў, але і з такім стажам былі праблемы: то пачнуцца калоцца адна з адной каровы, то ўцячэ, бывала, якая ў канюшыну ці ў буракі — то ледзьве яе знойдзеш. І вопыт не дапамагаў. А каровы розныя бывалі, як і людзі: адны любіць цімафееўку, другія — лубін, трэцяй падавай бражку пасля таго, як выганіш самагонкі. І людзям сёння, таварыш прэзідэнт, не дагодзіш: то заробку ім мала, то працы няма, то пенсія малая. І наогул, з гэтай пенсіяй — адна неразбярыха. І з пенсійным узростам таксама праблемы. Таму я хачу вам падказаць, дапамагчы, усё ж жыццёвы вопыт у мяне вялікі. Бо вашы гэтыя міністры і міністаркі нічагусенькі не хочуць думаць і вырашаць, толькі ведаюць хутчэй будаваць нейкія катэджы ў сталіцы. Там і так месца няма, а яны лезуць і лезуць, будуюць і будуюць. Няхай прыязджаюць у наш Стары Двор — тут месца на ўсіх міністраў і міністарак хопіць. А вось наконт пенсійнага ўзросту яны не падумалі. Але я вам дапамагу.



Волковыск.BY

Я ж пайшоў на пенсію ў 60 гадоў, і ўжо 32 гады яе атрымліваю. Гэта значыць, я 32 гады самым звычайным адкрытым чынам абкрадаю бюджэт дзяржавы, які і так трашчыць, як плот на марозе. Таму я прапаную вам паслухаць мяне і пачаць усім выдаваць пенсіі з 80 гадоў: і мужчынам, і жанчынам. Дажыў да 80-ці, калі ласка, урачыста атрымлівай тое, што ты заслужыў. А хто не дажыве да 80-ці — значыць, не заслужыў быць пенсіянерам з пенсіяй. Тады і пытанне з гэтым будзе вырашана назаўсёды. Ёсць і другая прапанова: так і быць, падтрымаю вашых міністраў і міністарак. Калі яны задумалі раней па ўзросту даваць пенсію пенсіянерам, то няхай даюць, і няхай гэтыя пенсіянеры яе атрымліваюць да 80 гадоў, а потым пенсіі болей не даваць: няхай гэтых старых глядзяць дзеці, унукі і праўнукі. Ну, скажыце, навошта мне сёння пенсія? Як толькі атрымаю, дык унучкі і праўнучкі тут як тут... і я пенсію толькі ў руках патрымаю — і ўсю аддаю, нават і не ведаю, як выглядаюць тыя паперкі, ці, як унукі кажуць, — купюры.




Я ўсё жыццё пражыў у вясковай хаце. Натаплю печы бярозавікамі — цёпла, аж да трусоў распранаўся. А цяпер усе жывуць пры выгодах: печы тапіць не трэба, ваду ў печы грэць не трэба, бо ў кватэрах і хатах цёпла, а з кранаў цячэ гарачая і халодная вада. І яшчэ аплачваць, бач, не хочуць. Такія выгоды павінны быць не дужа таннымі. Таму я прапаную: адключыць усе дамы ад ацяплення і не даваць вады. А калі хто пагаджаецца дорага за выгоды плаціць — тых і падключаць. Хто плаціць — той павінен і грэцца. Я так разумею, таварыш прэзідэнт. А тыя, хто не хоча плаціць, то няхай замярзаюць альбо прыязджаюць у Стары Двор. Хат у нашай вёсцы пустых вельмі шмат, хай засяляюцца ў любую хату, топяць печы дрывамі і жывуць. Гэта намнога будзе танней, чым у горадзе пры выгодах. А калі пойдуць у калгас свіней і кароў гадаваць, то ім дадуць лепшы будынак у аграгарадку, там таксама пустых будынкаў хапае, нават новыя пусцеюць.

Праўда, у калгасе нашым заробак пакуль не выплачваюць чацвёрты месяц, усе маладыя даяркі і свінаркі жывуць на вэксаль. Ці ведаеце вы, таварыш прэзідэнт, што такое жыць на вэксаль? Гэта амаль тое самае, як жыць пры камунізме. Калі не ведаеце, то я вам раскажу. Прыходзяць вяскоўцы ў краму і бяруць там усё, што ім хочацца. Потым падыходзяць да касы, прадавец усё палічыць і запіша ў чорны сшытак суму, на якую набрала тая ці іншая вяскоўка ці вясковец тавару. Калі праз дзень-другі зноў ідзеш у краму — паўтараецца тое ж самае. Глядзіш, за месяц і заробку не хопіць, бо сума расце, як грыбы пасля дажджу, ды і есці людзі хочуць штодня. Праўда, кажуць, што ў крамах ужо не хочуць на вэксаль даваць — бо вялікая запазычанасць вяскоўцаў перад магазінамі. А людзям ад адной бульбы ўжо жываты баляць...

Ёсць у мяне і шмат іншых прапаноў. Калі яны вас зацікавяць, таварыш прэзідэнт, звяртайцеся да мяне ў Стары Двор, заўсёды вам рады дапамагчы.

І яшчэ. Пісьмо гэта перасылаю праз газету «Новы Час» і прашу яго перадаць нашаму прэзідэнту.

*Дзед Яўсей,*
*вёска Стары Двор*



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 351

Падпісана да друку 15. 04.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.